# РОДНАЯ МОВА

МЕСЯЧНІК ПАСЬВЯЧОНЫ ПЫТАНЬНЕМ
БЕЛАРУСКАЕ (КРЫВІЦКАЕ) МОВЫ.

Выдаецца з памогаю Міністэрства Вераў і Асьветы

Падпіска на год — 6 зал, ½ г. — 3 зал, ¼ г. — 1.50 зал.

Адрэс Рэдакцы ј Адміністрацы: Вільня, Квашэльная 23, 1.

№ 5 Верасень—Сьнежань 1930. Год I.

## Зьмест:

### Артыкулы:



### Крытыкі ј рэфэраты:

# Месца беларускага языка сярод jіншых славянскіх языкоў і час яго ўзьніку.

Каб устанавіць *месца* беларускага языка сярод jіншых языкоў славянскіх ды *час*, калі беларуская мова разьвілася ў вапрычоны самастојны язык, трэба разгледзіць најстаршыя асаблівасьці беларускае мовы.

## Асаблівасьці фонэтычныя (гукавыя).

I. Пачатнае *о-*. Ё грудок словаў, што ў мове беларускај, расејскај і ўкраjінскај пачынаюцца на *о-*, а ў jіншых славянскіх мовах на *је-*. Вось гэтыя словы: *блр.* адзін (з одзінъ), алень (з олень), асётр (з осетръ), возера (з озеро), вольха (з ольха), восень (з осень); *рас.* одинъ, олень, осетръ, озеро, ольха, осень; *укр.* оден, олень, озеро, вільха (з ольха), осень *).

Jіншыя славянскія мовы маюць ува ўсіх альбо ў часьці менаваных словаў пачатнае *је-*. Прыкладам: *пол.* jeden, jezioro, jesień; *чэс.* jeden, jezero, jelen, jesetr; *сэрб.-хрв.* један, јелен, јесен і г. д.

Расејскія філёлёгі даводзілі, што ўсі менаваныя словы мелі ў праславянскај мове пачатнае *је-*, каторае быццам за дапушчанае jімі „праруская пары“ ў мове блр., рас. і ўкр. перајшло ў *о-*. Адылі не маглі давесьці, што гэт'кі пераход запраўды мог стацца.

З паміж расејскіх філёлёгаў накшы пагляд на гэтае зьявішча меў А. Сабалеўскі. Ён зьвярнуў увагу, што ј jіншыя славянскія мовы маюць пачатнае *о-*. Прыкл.: *пол.* olcha, olsza; *чэс.* olše, oseni „рунь“, *баўг.* оште „яшчэ“, одва „ледзь“, дыял. адно, адна з одно, на баўгарскім языковым прасторы знаходзім географічны назоў „Озеро“. Слова „*волава*“ ўсі славянскія мовы маюць з пачатным *о-* (*пол.* ołów, *чэс.* olovo і пад.) і толькі ў ваднэј сярэдне-баўгарскај мове сустракаjецца *елово*. Таксама „*арол*“ адно ў дольналужыцкасэрбскај мове мае *jerel*, а ў усіх jінш. слав. мовах пачынаецца на *о-* (*пол.* orzeł, *чэс.* orel і пад.). З другога

---

*) Пачатнае *о-* ў jімёнах грэцкага паходжаньня (блр. *Аўсеј* з *Оўсеј*, *Астап* з *Остап*) ня мае ў разгляданым пытаньню значэньня, бо гэт'кае-ж о- знаходзім у старацаркоўна-славянскіх памятках, узьніклых на паўдні Славяншчыны, ды навет у самој грэцкај мове. (А. Сабалеўскі, Лекціи по ист. р. яз. I, бал. 32—33).

боку, мовы блр., рас. j укр. маюць ладне словаў із пачатным *je-*. Прыкл.: *блр.* ежык побач з вожык, еўня, яшчэ (зь ješče), ледзь; *рас.* единъ побач з одинъ, езеро *) побач з озеро, ещо, едва, дыял. есенясь; *укр.* еден.

У „Slavii" II. 1923—24 г. бал. 232 выступіў у гэтым пытаньню jіншы расеjскі славісты, Г. Ільлінскі, проф. Саратаўскага ў-ту. Ён паказаў, што дзьве хвормы — з пачатным je- , o- — былі ўжэ ў мове праіндоэўропэjскаj, у мове супольнаj цяперашнім Славянам, Балтам, Германцам, Кельтам, Грэкам і jіншым. Дык, значыцца, разгляданая асаблівасьць не патрабавала „прарускае пары" дзеля сваjго вытварэньня.

Калі з вышменаваных словаў і былі некаторыя ў праславянскаj мове з адным пачатным самагукам, дык jім мусіла быць *o-*. У тыj час, калі пераход *je* ў *o* немагчымы, пераход *o-* ў *je-* зусім зразумелы: пачатнае *o-* дастала *j* і, як кожнае *jo*, перайшло ў *je-*. Але ў дыялектах праславянскае мовы было ня толькі протэтычнае (прыстаўное) j, але j *й* (=кір. *ў*, пасьлеj перайшло ў *v*). Дыкжэ гэтае прыстаўное *й* мела белар. мова перад пачатным *o-* націсьненым, маючы адначасна замест ненацісьненага *o* самагук рэдукаваны, што не даставаў протэтычных гукаў (гл. маю стацьцю ў № 3—4 „Р. М." бал. 66) дзеля таго ў часьці словаў перад пачатным *o* не зьявілася ў бел. мове *j* і гэнае *o-* не перайшло ў *je-*.

Як можна судзіць із цяперашняе расеjскае мовы, у рас. дыялекце прасл. мовы была некаторая тэндэнца да адпаданьня *j*, дык тэндэнца працілежная—зьяўленьне протэтычнага (прыстаўнога) *j* ды перад вусьняным (лябіяльным) *o*—мусіла быць абмежанаj.

**2.** *Прасл.* *ǫ* (насовы самагук, падобны да польскага ą) п е р а j ш о ў у—*u* (кірыліцкая *у*) ў мове *блр.* (дуб, муж, хаджу), *верхня-і дольна-лужыцсэрб.* (dub, muž), *рас.* (дубъ, мужъ); *сэрб.-хрв.* (дуб муж); *укр.* (дуб, муж); *чэс.* (dub, muž); 2) *польская* мова з ǫ даўгога мае *ą* (dąb, mąż), а з ǫ кароткага — ę (chodzę); у *баўгарскаj* мове ё новы насовы самагук, але дыялектычна ў баўгарскаj мове старыя насовыя самагукі захаваныя; 3) у мове *славенскаj* з ǫ ё *o* (dob, mož).

**3.** *Прасл.* ę ( *j ę z у к ъ, *p ę t ь ) п е р а j ш л о ў—1) 'a (*a* зьмякчаючае папярэдні сўгук) у мове *блр.* (язык, пяць), *верхня-лужсэрб.* (jazyk, hladać), *рас.* (языкъ, пять), *укр.* (язик, пять), *чэс.* (jazyk, páty з p'áty **); 2) — **ie** ў *дольна-лужсэрб.*; 3) — **e** ў мове *баўг.* (езикъ, петь), *сэрб.-хрв.* (језик, пет), *славен.*; 4) апрача таго ў *баўг.* дыялектах ё j насовыя

*) А. Сабалеўскі, ib. 31.
**) Значок ' збоку над сугукам паказуе, што сугук вымаўляецца мякка.

гукі на месцу ę (ензикъ). Насовыя гукі захаваліся ј у мове *польскај*—ą на месцу ę даўгога (3 ас. мн. л. chodzą) і ę на месцу ę кароткага (język).

4. Аканьне. Ненацісьненыя самагукі *о*, *е*, *ѣ* перајшлі ў мове беларускај і славенскај у *а*, *'а*. Пераход гэты стаўся так, што сьпярша ненацісьненыя самагукі рэдукаваліся (сталіся нявыразьлівымі ј каротшымі за кароткія), а пасьлеј рэдукаваныя перајшлі ў *а*, *'а*. У цяперашняј расејскај мове літаратурнај таксама ё аканьне; яно зьявілася ў ёј пад уплывам так зв. паўднёва-расејскага нарэчча, каторае ё абруселым патомкам мовы беларускіх Вяцічаў. Гл. аб гэтым мој артыкул „Беларускія плямёны і јіхняе рассяленьне" ў № 1—4 „Род. Мовы". Запраўднај народнај мовај расејскај ё паўночна-расејскае нарэчча, каторае ня знае аканьня.

5. *Прасл.* **or-**, **ol-** (*orz-, *old-) з інтонацај спускластај на пачатку слова перајшлі ў — 1) **ro-**, **ло-** ў мове *блр* (роўны, розны, розум, робе, лодка), верхняі дольна-лужсэрб., пол. (równy, łódź), рас., укр. і чэс. (rovny, lod'); 2) — *ra-*, *la-* ў мове баўг., сэрб.-хрв. і славен. (раб, разум, ладия і пад.).

6. *Прасл* -or-, -ol-, -er-, -el- паміж сугукамі перајшло ў—1) **-оро-**, **-оло-**, **-ере-** ў мове блр., (барана з борона, з *borna, галава з голова з *golva, бераг зь берэг з *bergъ, малако з молоко з *melko), рас. і ўкр. (борода, голова, берег, молоко), 2) — -ro-, ło-, -re-, -le ў мове пол. (brona, głowa, brzeg, mleko) ды верхня-і дольна-лужыцкасэрб. (brona, hłowa, głowa і г. д.; 3) -ra-, -la-, -re-, -le- ў баўг.-сэрб.-хрв., славен. і чэс. (брана, brana, глава, glava, hlava, бријег, млијеко, mleko); у менаваным складзе *-re-* у баўг., сэрб.-хрв. і чэс. мове па *р* было *ѣ*, а ў польскај *е*.

Трэба зацеміць, што *прасл.* група *-er-* перад канчаткам *-ці* (з *ti) неазначанага ладу не перајшла ў *-ere-* ў *блр.* мове (мерці, жэрці, перці і пад.), а ў *рас.* мове перајшла (мереть, тереть, переть і пад.).

7. *Прасл.* ъ. У праславянскај мове былі рэдукаваныя (каротшыя за кароткія) самагукі *ъ* і *ь*, званыя цяпер ерамі. Пад канец праславянскае пары гэтыя еры на канцы слова ды перад складам із самагукам сталіся слабымі, а, як надгарода за гэта, стаячыя беспасярэдне перад јімі еры сталі моцнымі. Апрача таго націсьненыя ъ, ь былі заўсёды моцныя. Гэтак прыкл. у слове *sъпъ (блр. *сон*) канцавы *ъ* аслаб, затое ъ у папярэднім складзе змоцніўся. Тое самое было з **ь** у слове *dьпь (блр. дзень). Далеј у васобных славянскіх языкох слабыя еры шчэзьлі, а моцныя перајшлі ў поўныя самагукі.

*Прасл.* ъ перајшоў — 1) у *о* ў мове блр., верхняі дольна-лужыцкасэрб., рас. і ўкр. (сон, son, сон, сонъ),

у баўг. мове ъ часткава перајшоў у *о*, а часткава захаваўся дагэтуль, у славен. на месцу ъ даўгога ё *а*, на месцу карот. — ъ; 2) у *е* ў мове пол. і чэскај (sen); 3) у сэрб.-хрв. мове ъ перајшоў у а (сан).

**8.** *Прасл.* ь перајшоў у *е* ўва ўсіх славянскіх моваў, апрача мовы сэрб.-хрв., дзе перајшоў у *а* (*дан* з *dьnь). У мове баўгарскај часткава ь перајшоў у *е*, а часткава ў глухі ъ (*старец* із *starьсь, пъстр з *pьstrъ „пярэсты“).

**9.** ъ перад ј перајшоў у *ы*, а ь перад ј — у *і* ўва ўсіх славянскіх мовах. Маем гэта ў гэт'кіх прыпадках: а) у канчатку наз. склону адз. л. складзеных прыкметаў (худы, худий, chudy, сіні і пад. з *chudъјь, *sinьјь і пад.); b) у цяперашнім часе некаторых дзеясловаў (*блр.* мыю, выю, рыю, ныю, крыю, шыю з *šьјǫ); с) у загадным ладзе (imperativus) тых-жа дзеясловаў (мыј, выј, рыј, крыј, шыј); d) у јімёнах назоўных (шыя, памыјі і пад.). Адно ў мове расејскај маем ува ўсіх гэтых прыпадках *о*, *е* на месцу ъ, ь перад ј. Прыкладам: худой, молодой, синей; мою, вою, рою, ною, крою; мой, вой, рой, ной, крой, шей, вей, пей, лей; шея, помои. Прыр. С. Кульбакін, Mluvnice jaz. starosl., у Празе, 1928, бал. 16. У паўночна-расејскім нарэччу, каторае ё запраўднај народнај мовај расејскај, ё *о*, *е* ў канчатку наз. скл. адз. л. складзеных прыкметаў, як тады, калі гэты канчатак націсьнены, так і тады, калі на јім нямаш націску. У так званым паўднёва-расејскім (абруселым беларуска-вяціцкім) нарэччу ё толькі *ы*, *і* (малады, худы, сіні, а так-жа мыю, рыю, мыј, крыј, шыя і пад.). Расејская літаратурная мова, відавочна такжа пад уплывам мовы царкоўна-славянскае, зрабіла ў прыкметах компроміс—пад націскам мае *о*, *е*, а не пад націскам *ы*, *і*.

**10.** ъ у прыстаўках перад јь- перајшоў такжа ў беларускај мове ў *ы*. Напр.: зыјдзе, надыјдзе, падыјдзе, адыјдзе, абыјдзе, узыјдзе, разыјдзецца з *sъjde і г. д. Адныя з прыјмёнаў (sъ, kъ, vъ) мелі ъ спачатна, јіншыя дасталі яго пасьлеј па аналёгіји, але яшчэ ў пару праславянскую. Јіншыя славянскія мовы на месцу ъ у прыстаўках перад *јь-* маюць тыј самы самагук, які яны маюць наагул з моцнага ъ. Прыкл.: *пол.* sen, i—zejdzie, odejdzie, *чэс.* sejde, odejde, *рас.* сон і—сойдетъ, отойдет і пад.

**11.** ь па ј на пачатку слова пад націскам быў моцны і ўва ўсіх славянскіх мовах перајшоў у *і-* (*імя*, imię і пад. з *jьmę ўва ўсіх слав. мовах з *і* на пачатку); ь ненацісьненае па *ј* на пачатку слова ў мове баўг., рас., сэрб.-хрв. і славен. перајшло ў *і-* (*рас.* имянины, играть, имѣть, имущество, изъ і г. д.), а ўва ўсіх јіншых славянскіх мовах, у тэј лічбе ј беларускај, шчэзла ь а па јім і *ј**)

*) па прыстаўках *ј* астаецца—прыјду, узыјду, најму, прыјму і пад.

(*блр.* мець, маемасьць, грaць, голка, мянюшка, менаваны, мяніны, з *), начај, накшы; *верхня-лужсэрб.* hra, mjeniny; *пол.* grać, mieć, *укр.* грати, мати, *чэс.* hrati і г. д.). Пасьлеј хвормы з *і* з націсьненага *јь-* і бяз *і* пачалі ўзаемна адны на адны ўплываць; гэтак было *гра*, але наз. скл. мн. л. ігры, па аналёгіјі ў вадных мясцовасьцех сталася *гра, гры*, а ў јіншых *ігра, ігры* **)

12. *ь* моцнае па ј у сярэдзіне слова перајшло ў мове баўг., рас., сэрб.-хрв. і славен. у *-і-* (*рас.* достоінъ, яицъ, яичница, троицкій, госте-пріимный і пад.). а ў усіх јіншых славянскіх мовах перајшло ў *-је-* (*блр.* яец, яечня, траецкі, прыемны, душаемца, *пол.* jajecznica, przyjemny, *чэс.* vajec і пад.).

13. *Прасл.* складовае *r* цьвярдое і *r* мяккое 1) складовым і асталося ў мове блр., баўг., сэрб.-хрв., славен. і чэс. (*сэрб.-хрв.* трг, *чэс.* trh, trhati і пад.). У *блр.* мове складовае *р* аставалася да палавіцы XV ст. Дагэнуль маем у беларускіх языковых памятках таковыя прыклады, як—*смрть, мртвѣномъ, смрти, црковъ, тргъ.* А. Карскі, Бѣлоруссы II., 1., 159. Маючы ўжэ складовае *р*, блр. мова магла яго разьвіваць і ў јіншых групах ды складовае *л*, *в* і *м* (*крві, трваці, кршыць, глтаць, блшчэць, зьвнець, мгла*, з чаго цяперашнія — *крыві, трываці*, крышыць, глытаць, блішчэць, зьвінець, *мыгла* і пад., балеј прыкладаў гл. на бал. 139—40 гэтае кніжкі). Ад палавіцы XV. ст. складовае *р* у беларускај мове пераходзе ў *-ыр-, -ір-* (*пырхаць, чырвоны, міргаць, адтыргнуць*, балеј прыкладаў гл. на бал. 140—1 гэтага шшытка), а па аналёгіјі да таковых, як — *кол*, вол, стол, *мерці, церці* — пераходзе такжа ў *-ор-, -ер-* (*торг, сьмерць* і пад.).

У мове баўгарскај дыялектычна па č (кір. *ч*) ё такжа *-ер-* (*чернъ* „чорны“, *червъ*) ды на месцу нескладовага *l* таксама дыялектычна ё *-ол-, -ел-* (*молчи* „маўчы“, *волци* „ваўкі“, *жол*та, желта „жоўтая“). П. Лаўроў, Обзоръ звук. и форм. особен. болгар. языка. 2) У мове верхня-лужыцкасэрб., рас. і ўкр. складовае *р* цьвярдое разьвіло перад сабою *ъ*, а мяккое *р* — *ь*, каторыя ј перајшлі разам зь јіншымі *ъ*, *ь* у *о*, *е* (torh, smjerć, serp, торгъ, порхать, *моргать* і пад.). 3) У *пол.* мове скл. *р* перајшло ў *-ер-, -ар-* (czerwony, śmierć, targ).

14. *Прасл.* *l* складовае 1) перајшло ў *-оў-* у мове блр., славен. і ўкр. (*блр. воўк*, поўны, воўна, поўсьць, *укр.* вовк і пад.). 2) Блізу тое самое сталася ў мове *сэрб.-хрв.*,

---

*) дзе ў блр. мове ё *із*, там *і* ня зь *јь-*, але прыстаўное; гл. бал. 141. гэтага шшытка.

**) пасьлеј перад гэтым *і* ў блр. мове зьявілася яшчэ *ј* прыстаўное— јімя, јігры і пад.

дзе з *l* складовага ўзьнікла *у* (пун „поўны“); 3) у мове баўг. і чэс. складовае l асталося (влък, vlk „воўк“); як сказана вышэј, дыялектычна ў мове баўг. ё пераход складовага *l* у *-ол-*, *ел-*, а ў мове чэскај у некаторых прыпадках на месцу складовага *л* ё *-lu-* (dluh „доўг“, žluty „жоўты“ і пад.). 4). У мове верхня-лужыцкасэрб. і рас. складовае *l* разьвіло перад сабою *ъ*, каторы потым перајшоў у *-о-* (dołhi, połnóc, долгой). 5) Напару тыя самыя гукі на месцу складовага *l* бачым у мове польскај (półk, żółty, pełny з pълnъ, з *plnъ), апрача таго, у мове польскај на месцу скл. *l* ё *-łu-* і *-il-* (dług, tłusty, wilk).

Блізка да пераходу складовага *l* у *-оў* стајіць пераход у беларускај мове ў *ў* таго *л*, што стаяла калісь перад *ъ* (*біў*, быў з *bilъ, *bylъ і пад.). Таковы-ж пераход *l* у *ў* ё ў мове сэрб.-хрв., дзе *ў* далеј перајшло ў *о* (bio „біў“, prosio „прасіў“), укр. (*бив*) і славен. Јіншыя славянскія мовы такога пераходу *л* у *ў* ня знаюць *).

**15.** *и* (кір. *у*) пераходзіць у *й* (*ў*). У мове блр. і ўкр прыјмя *у*, а такжа *у* пачынаючае слова альбо склад, па самагуку пераходзе ў *ў*. Прыкладам: былі *ў* бацькі тры сыны, на ўме, наўчоны. Јіншыя славян. мовы гэтае асаблівасьці ня маюць.

**16.** Тонаца. Пад уплывам фінскае мовы ў мове расејскај (народнај—у паўночна-расејскім нарэччу) узьнікла тонаца. Јіншыя славянскія мовы тонацы ня знаюць.

**17.** Націск. У вадных слав. мовах ё націск у слове заўсёды на адным складзе, як прыкладам у мове польскај ё націск на прадапошнім складзе, у мове чэскај і верхнялужыцкасэрбскај на першым складзе. У другіх слав. мовах бывае націск на розных складох слова, як у мове блр., баўг., рас., сэрб.-хрв, славен. і ўкр. У мове *прасл.* быў націск на розных складох у розных словах ды ў розных хвормах таго-ж слова. Славянскія мовы, што маюць націск вольны ј зьменны, у тэј ці јіншај меры захавалі націск праславянскі. Мова рас. ды чакаўскае нарэчча мовы сэрбахарвацкае захавалі наагул нязьменены націск праславянскі. Крыху зьменаў ад націску праславянскага ё ў націску ўкрајінскім і ладне ў беларускім.

**18.** Протэтычнае (прыстаўное) *v* (кір. *в*) перад пачатнымі *о*, *у* мае мова беларуская **) ј верхня-лужыцкасэрбская (*вока*, *вуха*, woko, wucho і пад.). Јіншыя слав. мовы альбо зусім ня маюць прыстаўнога *в* перад *о*, *у*, як

*) Ад пераходу ў ў таго *л*, што стаяла калісь перад *ъ*, трэба адрозьневаць пераход кожнага *л* у *в*. Гэты (апошні) пераход ё ў народнај мове рас. (ковоков з колокол), польскај і лужыцкасэрбскај.

**) Аб прыстаўным *в* у блр. мове гл. мој артыкул у № 3—4 „Род. М.“.

мова расејская ј баўгарская, альбо толькі дыялектычна, як мова сэрба-харвацкая, славенская ј польская; апошняя апрача таго мае ўсюды *v* перад *ą*, *ę* з прасл. *ǫ* (wązki, węzeł).

**19**. *Прасл. bl-, vl-, pl-, ml-* з ранејшага bj-, vj-, pj-, mj- захавалі сваё *l* у мове блр., баўг. рас., сэрб-хрв., слав. і ўкр. (*блр. люблю*, лаўлю, луплю, зямля; *сэрб.-хрв.* zemlja і пад). У јіншых слав. мовах менаванае *l* шчэзла (*пол.* ziemia, верхня-лужсрб. zemja і пад.). Трэба зацеміць, што адно ў старабаўгарскај мове было менаванае *l*, а ў новабаўг. мове яно такжа шчэзла.

**20**. *Прасл. tl, dl* страціла сваё *l* (*л*) у мове блр. — (*мыла, плёў*), баўг., рас., сэрб.-хрв., слав. і ўкр.; дыялектычна (у Пскоўшчыне) ў блр. мове *д*, *т* перад *л* захаваліся; праўда замест *д*, *т* перад *л* ё тамака *г*, але гэта не мяняе істоты справы (*жарагло* „жарало“). Дыял. ў славен. мове ё *dl, tl*. У јіншых слав. мовах *д*, *т* перад *л* асталося (*пол.*, wiodł, plótł, mydło, szydło, *чэс.* mydlo, pometlo і г. д.).

**21**. *Прасл. kv-, gv-* перад *ѣ* перајшло ў *цв*, *дзв* а далеј у *зв* ў мове блр. (*цьвет*, *зьвезды* , баўг., рас., сэрб.-хрв., славен. і ўкр. У јіншых слав. мовах *kv-*, *gv-* перад *ѣ* асталіся (*пол.* kwiat, gwiazda, *чэс.* kvêt, hvêzda і пад.).

**22**. *Прасл.* tj- (*chotjǫ) ды *kt* (апошняе перад пярэднепаднябенным самагукам — *noktь) перајшло 1) у č (кір. *ч*) ў мове блр. (*хачу, ноч*), рас. (*свѣча*, хочу, ноч), 2) славен. (sveča, noč); укр. (хочу, ніч). Блізу таковы пераход маем у сэрб.-хрв. мове, дзе *tj, kt* дало *ć* (мяккое *ч* — svijeća, vraćati, noć). 3) У мове пол., чэс., верхня- і дольна-лужыцкасэрб. *tj*, *kt* перајшло ў *c* (*пол.* chcę, świeca, noc; *чэс.* chci, svice, noc; *лужыцкасэрб.* svêca). 4) У мове баўг. *tj*, *kt* перајшлі ў š*t* (враштати „варочаці“, ношть).

**23**. *Прасл. скј-* перајшло 1) ў šč у мове *блр.* (шчыры, вогнішча), *в.-лужыцкасэрб.* (wohnišćo), *пол.* (szczery), славен., *укр.* (щирий), *чэс.* (дыял. ščiry, стч. lučišče); 2) у *шш* ў мове *рас.* (ищу=іщшю); 3) у š*t* у мове *баўг.* штир).

**24**. *Прасл. stj-* (*mьstjenьje) перајшло 1) у šč у мове блр. (пушчу, імшчу), пол. (puszczę), славен., укр., чэс.; 2) у мове рас. ё тут падвојнае š мяккое (пушшю, пішацпа — пущу); 3) у баўг. мове ё š*t*.

**25**. Прасл. *дј-* (*medja, *chodjǫ, *rodjenъ, *rodjenьje) перајшло 1) ў ž у мове *рас.* (межа, хожу, роженъ, роженье); 2) у блр. і ўкр. мовах a) назоўныя јімёны часта таксама з *дј* маюць ž (*блр.* мяжа, дзяжа), але побач із гэтым ё ј *д*ž (ураджај), b) у 1-ј ас. цяп. часу заўсюды ё *дж* (хаджу, ваджу, сяджу), c) таксама ў пасыўных дзеяпрыкметах мі-

нулага часу (participium perfekti passivi)—роджаны, воджаны, саджаны ды d) ў утвораных ад гэтых дзеяпрыкметаў дзеясло́ўных jімёнаў (раджэньне, ваджэньне); 3) *dz* у мовах лужыцкіх (mjeza), пол. (miedza, chodzę), чэс. (meze з medza); 4) у славен. j (meja, rojen); 5) у сэрб.-хрв. гук блізкі да *dž* альбо dj; 6) у баўг. žд (межда).

**26.** *Прасл. zdj* (*prigvozdjенъ) перайшло — 1) у ždž ў мове блр. (ежджу, разьяжджаць), пол. (jeżdżę, odjeżdżać), укр. (іжджу); 2) у рас. мове перайшло ў *žž* (падвоjнае ž— ѣжжу, разъѣжжать, Расеjцы няправільна піжуць ѣзжу і пад.); 3) у ž у славен.; 4) у *žd* у мове чэскаj (odjiždim) і баўг. (пригвожденъ).

**27.** *Прасл. zg-* (*rozgьje) аднолькава зьмянілася ў розных слав. мовах, як і група *zdj*. Прыкладам: 1) *блр.* мажджэр, дождж, дрожджы; *пол.* móżdżek з *mozgjьkъ, drożdże; *укр.* дрожджи; 2) *рас.* можжечокъ; 3) славен. ž; 4) *баўг.* мождити, дъждь; *чэс.* droždi.

**28.** *Прасл.* t (*choditь) перад пярэднепаднябеннымі самагукамі (е, і, ь, ę) перайшло ў с (кір. *ц*) ў мове беларускаj (хадзіць, дзеці), польскаj (chodzić), верхнялужыцкасэрбскаj (njesć, mać „маці") і дольналужыцкасэрбскаj (śichy з cichy). У jіншых слав. мовах *t* у гэтым палажэньню ў *c* (кір. ц) не пераходзе: баўг. j рас. гости, сэрб.-хрв. ogledati, укр. мати, чэс. mati і пад.

**29.** У тых-жа мовах *прасл. d* перад тымі-ж пярэднепаднябеннымі самагукамі перайшло ў *dz*. Прыкл.: блр. дзеці, людзі; пол. dzieci, ludzie; верх.-лужыцкасэрб. ludźo, mjedź, dźeń; дольна-лужыцкасэрб. źiśo з dźećo. У jіншых слав. мовах гэтага пераходу нямашака: баўг. осемдесет, рас. люди, сэрб.-хрв. ljudi, укр. люди, чэс. lide і пад.

**30.** *r* мяккое. У праславянскаj мове было *r* цьвярдое, прыкладам у слове *ryba, *ракъ, і *r* мяккое, прыкладам у слове *tri, *kričati. У беларускаj і славенскаj мове прасл. *r* мяккое ацьвярдзела, так што гэтыя мовы маюць цяпер адно *r* цьвярдое (*блр.* тры, крычэць, рэзаць, урад і пад.). У jіншых славян. мовах мяккое *r* асталося. Прыкл.: баўг. три; пол. trzy, з *tri, porządek з por'ądek; рас. три, порядокъ, рядъ; сэрб.-хрв. tri; укр. порядок, гарячий і пад.

**31.** *Прасл. w* (білябіяльнае, двувусьнянае) асталося таковым у мове беларускаj, верхня- і дольна-лужыцкасэрбскаj. У jіншых слав. мовах двувусьнянае *w* перайшло ў звычаjнае вусьнянае *v*. Прыраўнуjуце, прыкладам, беларускую вымову *v* (кір. *в*) у слове *воўк, вада* і jіншых з вымоваю *v* у мове польскаj, расеjскаj і jіншых. Дзеля таго што ў беларускаj мове асталося *w* двувусьнянае, яно перад сугукам і на канцы слова пераходзе ў *ŭ* (кір. *ў*); прыкл.: галава, але—*галоўка, братоў*.

**32.** *Прасл.* *g* перайшло ў *h* у мове блр. (госьць, голас), верхнялужыцкасэрбскај (hosć, hłos), укр. (гость) і чэскај (host, hlas). Праслав. *g* асталося таковым у мове баўг. (глас), дольна-лужсэрб. (głos), пол. (gość, głos), рас. (гость=gost'), сэрб.-хрв. (глас), славен. (głas).

**33.** *Прасл.* с (кір **ц**) ацьвярдзела ў мове блр. (цэлы, цана), пол. (cały, cena), верхня-лужсэрб. (cyheł „цэгла", cyle). У іншых слав. мовах асталося *c* (кір. ц) мяккое, прыкл.: рас. цѣлый, укр. цілий, купець і г. д.

**34.** č, š, ž (кір. *ч*, *ш*, *ж*) ацьвярдзела ў мове *блр.* (чысты, чапаць, ноч, пішаш, накшы, жыці) і *пол.* (czysty, szydło, żyć). У іншых слав. мовах č, š, ž асталіся мяккімі; прыкл.: верхнялужсэрб. šija, wotčincy, žiwjenje „жыцьцё"; рас. шило, жизнь; чэс. šidlo і пад.

Аб ацьвярдзеньню с, č, š, ž прыр. С. Кульбакін, Mluvnice jaz. staroslovenske'ho. У Празе, 1928 г., бал. 15.

**35.** Мена ј мяшаньне č—с, š—ś, ž—ź. Расејская мова розьніцца ад іншых славян. моваў, у тэј лічбе ј ад мовы беларускае, менаю ј мяшаньням č—с, š—ś, ž—ź. Прыкладам: черковь „царква", цистый „чысты", шіла „сіла" і сіло „шыла", вшё „усё", зижнь з жизнь „жыцьцё".

Асаблівасьць гэтая ёсьцека адно ў народнај мове расејскај — у паўночна-расејскім нарэччу, але дыкжэ гэта најляпеј паказуе, што яна ё чыста расејскај. Узьнікла гэтая асаблівасьць уплывам мовы фінскае, бо Расејцы спрадвеку вельмі мяшаліся з рознымі фінскімі пляменамі.

## Морфолёгія (хвормы).

**36.** Мова баўг., сэрб.-хрв. ј славен. ў родным скл. адз. л. і ў назоўным-вінавальным мн. л. (gen. sg. і nom.-ac. pl.) мяккіх *a*- асноваў ды ў вінавальным скл. мн. л. (*a*c. pl) мяккіх о- асноваў мускіх маюць (альбо мелі) самагукі, адпавядаючыя *прасл.* ę (*volę, *końę). А мова блр., верхня- і дольналужыцкасэрб., пол., рас., ўкр. ј чэс. ў тых-жа склонах маюць (альбо мелі) самагук, адпавядаючы *прасл.* ѣ (*volѣ, końѣ).

**37.** Стары канчатак — *омь* (*bogomь) творнага скл. адз. л. (instr. sg.) о- асноваў захавалі мова баўг. сэрб.-хрв. ј сл. Усі іншыя слав. мовы менаваны канчатак замянілі паводле асноваў на *-и* — на *-ъмь* (*bogъmь, *stolъmь); адгэтуль у блр. мове ё канчатак—*ом* (не пад націскам -ам— сталом, Богам), у пол., чэс. і лужыцкасэрбскіх *-em* (Bogiem, Bohem, stołem, stolem).

**38.** Канчатак 3-яе ас. адз. ј мн. л. цяпер. часу ў мове *блр* і *ўкр.* меў на канцы *ъ*, ад чаго стаячы перад јім сугук *t* зьмякчыўся (носіць, носить, носяць, носять). Гэ-

ты-ж канчатак у мове баўг. і рас. меў на канцы *ъ* (рас. ходитъ, ходятъ; баўг. дыял. носит, звычајна ў цяперашняј баўг. мове 3-ая ас. адз. ј мн. л. ё бяз *т*).

**39.** Дзеясловы атэматычныя (сугуковыя) у мове блр. і ўкр. у 1-ј ас. цяпер. часу канчаюцца на — *мо* (*блр.* ямо, дамо, даўнеј *ясьмо* і јінш.). У тых-жа мовах на— *мо* (бяз націску ў блр. мове—*ма*) канчаюцца ўсі дзеясловы ў 1-ј ас. мн. ліку загаднага ладу (*блр.* сядзьма, чытајма, кажэма, рабема). Хвормы на *-то* ёсьцека такжа ў мове баўг., сэрб.-хрв., славен. і славац. Јіншыя слав. мовы маюць гэтта накшыя хвормы: *рас.* — *тъ* (ѣдимъ, дадимъ); *пол.* — *ту* (jemy, damy, dajmy, czytajmy); *чэс.*—*те* (jime, dáme, pišme). Зацемлю, што ў старабеларускај мове лучаюцца такжа хвормы на *-те* ј *-ту*.

**40.** Дзеясловы атэматычныя (сугуковыя) ў 2-ј ас. цяпер. (альбо будучага) часу канчаюцца на—*si* ў мове *блр.* (дасі, ясі), баўг. (даси), укр. (даси, іси), чэс. (jsi). Јіншыя слав. мовы маюць гэтта канчатак -š з -šь: лужсэрб. daš; пол. dasz, jesz; рас. дашь ѣшь.

**41.** Хвормы давальнага ј меснага скл. адз. л. *tob-*, *sob-* мае мова блр. (табе, сабе з тобе, собе), пол. (tobie, sobie), укр. (тобі, собі). Хвормы з *е* мае мова баўг., рас. (тебѣ, себѣ), сэрб.-хрв. (теби, себи), славац. (tebe, sebe). Верхнялужсэрб. мова мае цяпер абедзьве хвормы.

**42.** Ад усіх славянскіх моваў — у тэј лічбе ј ад мовы беларускае — рас. мова розьніцца тым, што ня мае адзін. ліку ў *-ent* асноваў. Гэтак замест блр. *цялё*, *цяля*, ягнё, гусянё; пол. cielę і пад., чэс. tele, ё *рас.* теленокъ, ягненокъ, гусенокъ і г. д.

**43.** Член *tъ ta*, *to* дадаецца ў канцы јімёнаў у мове баўгарскај і расејскај (у паўночна-расејскім нарэччу). Прыкл.: *баўг.* родът „род", виното „віно", душата „душа"; *рас.* человѣкътотъ „чалавек", полѣното „палена", душата, бабата „баба", бабуту „бабу" і пад.

Расејскія філёлёгі, апіраючыся на асаблівасьцех, супольных мове беларускај, расејскај і ўкрајінскај, паказаных мною ў пунктах 2—3, 5—8, 17 (націск), 19—22, даводзілі, што гэтыя асаблівасьці, як супольныя менаваным тром мовам, мусілі паўстаць у пару супольнага жыцьця гэных трох моваў. Гэную пару яны ўмоўна назвалі „прарускаю пароют" альбо пароют „праруская суцэльнасьці". Яны даводзілі, што маці ўсіх цяперашніх моваў славянскіх—мова праславянская (таксама так умоўна называная)— падзялілася калісь на тры групы — заходнюю, паўднявую ј усходнюю альбо рускую. Кожная з гэтых групаў быццам жыла якісь час супольным жыцьцём а пасьлеј падзялілася на апрычоныя сучасныя мовы, пры чым з усходняе групы паўсталі мовы — беларуская, расејская ј украјінская. Пры

гэтым трэба зацеміць, што расејскія філёлёгі часта замоўчавалі групу заходнюю ј паўднявую, затое вельмі падчыркавалі групу ўсходнюю, „рускую“, нярэдка ўтажсамляючы яе з моваю расејскај (маскоўскај). Ува ўсім гэтым было балеј палітыкі, як навукі.

Але вярнемася да вышменаваных „агульна-рускіх“ асаблівасьцеў. Наўперад адпадае ад јіх **націск**, каторы ў мовы расејскај бліжшы да націску чакаўскага нарэчча сэрба-харвацкае мовы, чымся да націску беларускага ј украјінскага, ды пры тым-жа гэны націск навет не дыялектычна, але агульна праславянскі; не патрабаваў ён, значыцца, жаднае праміжнае („прарускае“ ј пад.) пары дзеля свајго вытварэньня.

Асталыя асаблівасьці, як супольныя мове беларускај, расејскај і ўкраjінскај, запраўды мусілі разьвіцца ў пару, калі гэтыя тры мовы жылі супольным суцэльным жыцьцём. Але яны супольныя ня толькі менаваным тром мовам. Асаблівасьць **2**-ая ё супольная яшчэ мове верхня- і дольна-лужсэрб., сэрб.-хрв. і чэскај. Асабл. **3**-яя абыјмае такжа мову верхня-лужсэрб. ј чэс. Асабл. **5**-ая ё супольная ўсім мовам, апрача баўг., сэрб-хрв. ј славен. Асабл. 7-ая ё супольная яшчэ абедзьвім мовам лужыцка-сэрбскім. 8-ая асабл. ё супольная ўсім слав. мовам, апрача сэрб.-хрв. ды часткава баўгарскае Асабл. 19—21 ё супольныя яшчэ мове баўг., сэрб.-хрв. і славен., затое адно беларускае нарэчча (пскоўскае) *го-ае* асаблівасьці ня знае. Асабл. 22 супольная яшчэ мове славенскај.

Дык ясна, што менаваныя асаблівасьці паўсталі ня толькі за супольнага жыцьця моваў блр., рас. ј укр., але ј аднačасна моваў баўг., верхня- ј дольна-лужсэрб., пол., сэрб.-хрв., славен. ј чэс. А гэта было тады, калі была адна суцэльная праславянская мова, а гэтыя мовы былі еjнымі дыялектамі (нарэччамі). Як у мове суцэльнај, але дыялектычна здыфэрэнцаванај, паўставалыя ў ёј зьявы маглі пашырацца на ўсю мову альбо абыјмаць тую ці јіншую часьць дыялектаў. А калі асаблівасьць была ня новај, дыялектычна вытваранај, але старој, дык яна проста асталася.

У праславянскую пару паўсталі ј усі јіншыя зьявы, прыведзеныя мною вышэј *).

---

*) Адылі гэта ня значыцца, каб усі прыведзеныя вышэј 42 зьявы (1-ая запраўды ня існуе) канчальна разьвіліся ў мове праславянскај. Частка јіх разьвіла дыялектычна ў праславянскај мове адно свој пачатак, але на толькі разьвіла, што пасьлеј, за асоб ага быцьця славянскіх моваў, ня мог зьмяніцца кірунак развою гэных зьяваў. Гэтак ǫ, ę у часьці праславянскіх нарэччаў авно прыблізіліся да *u*, *'a* (кір *у*, *я*), ъ у другој часьці прыблізілася да *о*, а јзноў у јіншај часьці *d*, *t* перад пярэднепаднябеннымі самагукамі вымаўляліся мякчэј і пад. Крыху пасьлеј у вапрычоных славянскіх языкох гэт'кае ǫ прыбліжанае да *u* (кір. *у*) перајшло ў *u* (кір. *у*), ъ у *о*, а *d*, *t* у *dз*, *ц*.

Значыцца ня было жаднае „прарускае пары“ ані „прарускае суцэльнасьці“, але была калісь суцэльная праславянская мова, каторая дыфэрэнцуючыся падзялілася на апрычоныя, гістарычна ведамыя мовы славянскія. Начај кажучы, калі асобныя дыялекты славянскае прамовы разьвілі ў сабе даволі языковых зьяваў, яны сталіся апрычонымі славянскімі языкамі. Сталася гэта ў часе паміж На раджэньням Хрыстовым і V. ст. па Хрысту.

Гэт'кі спосаб і час паўстаньня апрычоных славянскіх языкоў прызнаюць најлепшыя языкаведы славянскія. Гэтак, напрыклад, О. Гуер кажа: „Наагул відаць, што праславянскія дыялекты былі відавочна раскладзены так, як раскладзеныя ў гістарычную пару языкі, што зь јіх разьвіліся.

„З гэтага ўсяго відаць, што нельга языкі славянскія з нутраных якіх довадаў дзяліць на заходнеславянскія, паўдневаславянскія ј усходнеславянскія.. навуковая клясыфікаца языкоў славянскіх здаваляецца јіх вылічэньням і констатованьням старых супольных рысаў“. Uvod do dêjin jaz. čes.[2], бал. 80.

Дык у першых стагодзьдзех па Хрысту беларуская мова беспасярэдне з праславянскага языка разьвілася ў вапрычоны беларускі (начај званы крывіцкім) язык.

Але паводле вышменаваных 42 асаблівасьцеў (1-ае асаблівасьці запраўды нямашака) можна судзіць аб адносінах паміж славянскімі мовамі ў тој час, калі яны былі яшчэ нарэччамі аднае мовы праславянскае.

Дзеля таго јзноў зьвернем увагу на некаторыя з вышменаваных асаблівасьцеў.

*Вылучна* беларускај, расејскај і ўкраінскај мовам супольнај асаблівасьцяј ёсьць толькі адна зьява *-оро-*, *-оло-*, *-ере-* з *-*or-*, *-*ol-*, *-*el-*, *-*er-* паміж сугукамі (пункт 6).

Да гэтага адно трэба дадаць, што А. Карскі, Бѣлоруссы І. 2 бал. 302-4 меў думку, ці ня было спачатна ў беларускај мове -ора-, -ола-, -ера-.

Адна вылучна супольная асаблівасьць ё такжа ў мовы беларускај і верхня-лужыцкасэрбскај—гэта прыстаўное *в* перад *о*, *у* (п. 18).

Паміж мовај беларускај і славенскај ё дзьве вылучна јім супольныя асаблівасьці—ацьвярдзеньне *r* (п. 13) і аканьне (п. 4).

З гэтага бачым, што ў праславянскую пару беларуская мова балеј перажыла вылучна супольных асаблівасьцеў з мовај славенскај, як з расејскај.

Калі возьмем цяпер мову расејскую, дык пабачым, што з моваю верхня-лужыцкасэрбскаю яна перажыла вылучна јім супольную асаблівасьць -ol- (ол) з *l* складовага

(14) ды яшчэ зь верхнялужыцкасэрбскаю ј украјінскаю разам -ог- з *r* складовага (13).

Значыцца расејская мова балеј перажыла вылучна супольных асаблівасьцеў зь іншымі славянскімі мовамі, чымся з моваj беларускаю.

Яшчэ зацемлю, што асаблівасьцеў супольных мовам беларускаj, расејскаj і ўкраінскаj ды адначасна іншым славянскім мовам ё трынанцаць (п.п. 2, 3, 5—8, 17, 19—22, 36 і 37), а тымчасам асаблівасьцеў супольных мове беларускаj і іншым славянскім мовам, але ня супольных мове расејскаj ё дваццаць дзевяць.

Калі глянем цяперака на іншыя славянскія мовы, дык паміж іншым пабачым, што ў мове баўгарскаj, сэрба-харвацкаj і славенскаj ё вылучна јім супольнаj асаблівасьцяj пераход *ę* у *e* (п. 3).

Асаблівасьцяj вылучна супольнаj мове польскаj і чэскаj ё пераход *ѣ* у *e* (п. 7)-

Польскаj і дзьвём лужыцкасэрбскім мовам вылучна супольнаj асаблівасьцяj ё -го-, -ło- з -ог-, -ol- паміж сугукамі (п. 6).

Калі возьмем дзьве лужыцкасэрбскія мовы, польскую ј чэскую, дык знаjдзем у іх ажно пяць вылучна јім супольных асаблівасьцеў: a) утрата *l* у групах bl, pl, vl, ml з *bj і г. д., b) *d, t* перад *l* асталося, c) k, g ў групе *kv-*, *gv* перад *ѣ* не зьмянілася, d) *tj-* перајшло ў *c* і e) dj- перајшло ў dz (пп. 19—22 і 25).

Дык бачым, што часьць іншых славянскіх моваў жыла паміж сабоj шмат цясьнејшым жыцьцём, чымся мовы беларуская, расејская ј украјінская.

Др. Я. Станкевіч.

---

# Зацемкі з крывіцкае (беларускае) мовы.

## Як пісаць прыстаўкі *з, роз, уз, без* перад шыпячымі.

У практычнаj граматыццы беларускаj устаноўлена: 1) калі прыјмёны *з, роз, уз, без* пішуцца асобна — начаj кажучы, калі яны ня ё прыстаўкамі—дык іхняе *з* на пісьме не мяняецца; 2) калі менаваныя прыјмёны ё прыстаўкамі, дык перад ціхімі сугукамі (*п, т*, х, *с* і г. д.) ня толькі замест *з* вымаўляецца *с*, але ј пішацца *с*.

Але не ўстаноўлена, як пісаць менаваныя прыстаўкі перад шыпячымі *ч, ш, ж*. Дык разгледзім гэта.

У праславянскај мове прыјмёны ј прыстаўкі *jьz, *orz, *vъz, *bez (з чаго беларускія *з*, *роз* а не пад націскам *раз*, *уз—ўз*, *без*) былі спачатна бязь еру на канцы. Дзеля таго перад ціхімі сугукамі *з* менаваных прыстаўкаў перајшло ў *с*. Бачым гэта з најстаршых памяткаў стара-царкоўна-славянскіх, дзе побач з *избити*, *раздѣлити*, *възнести* і пад. ё *искоусити*, *раскопати*, *въскрѣсити* і пад.

У тых-жа памятках на месцу *з* менаваных прыстаўкаў перад шыпячымі *ч*, *ш*, *ж* знаходзім *щ* і пад. Прыкладам: *ишьдъ* з *ишшьдъ* з *is-šьдъ, *рашırити* з рашширити з *orsširiti, *ищазаетъ*, *бещисльнъ* і јінш. Прыр. С. Кульбакін, Mluvnice jaz. starosl. У Празе, 1928, бал 84—86, скуль узядзеныя ј прыклады, каторыя з тэхнічных прычынаў я перадаў цяперашняј кірыліцај.

Вышменаваная вымова была ј у мове старабеларускај, а ўсі ведаюць, што яна ё ј у цяперашняј мове беларускај.

Трэба яшчэ зацеміць, што з прыјменям *jьz, каторае ў беларускај мове перајшло ў *з*, зьлілося прыјмя *sъ, што таксама перајшло ў *з*. Дык, ведама, што зьмена *з* з *sъ перад *ч*, *ш*, *ж* будзе таковая-ж, яковая ё перад тымі-ж сугукамі зьмена *з* зь *jьz.

Дык маем пісаці гэтак: шчасьце, шчэзнуць, няшчысьлёны, нішчымны, шшыць, шшыток, ізь сьвету жжыць; рашчыніць, рашчытаць, рашшырыць, ражжыцца; ушчаць, ушчынаць, ушчапіцца, ужжадаць; бяшчасны, бяжжыліць, бяжжонны і г. д.

## Слоўнічак.

Пачынаем наш „слоўнічак". У јім будуць друкавацца словы, каторых альбо зусім нямашака ў беларускај мове літаратурнај альбо јіх ўжывае адно часьць беларускае інтэлігенцы, а јіншај часьці яны астаюцца няведамымі ці няведамы јіх беларускі характар. Будуць тут і таковыя словы, каторых ужывае ўся ці часьць беларускае інтэлігенцы зь некаторымі заганамі, няправільнасьцьмі.

Слоўнічак дзелім на дзьве часьці. У першај часьці (І.) будуць словы, узядзеныя зь беларускае мовы народнае, а ў другој часьці (ІІ.) словы нова-створоныя.

І. **астацца,-нуся**, *мнагаф.* **аставацца, астаюся.** Ужываецца ў двух значэньнех: 1) на пытаньне *дзе*? Астацца, аставацца дома, у лесе, заграніцај і пад. 2) а с т а ц ц а, а с т а в а ц ц а  а д  к а г о. Калі јдуць і адзін ці колькі не пасьпяваюць зыјсьціся зь јіншымі, дык яны а с т а ю ц ц а, а с т а л і с я, г. зн., што яны јдуць крышку ці шмат ззаду, за јіншымі, пярэднімі, а ня роўна з усімі. Можна аставацца, астацца ў рабоце—жнучы, косячы, вучаньнік можа астацца ў вучэньню. Можна астацца культурна. Пол. pozostać z tyłu

od kogo. Рас. отстать. І пабеларуску кажацца **адстаць**, але ў накшым значэньню: можа адстаць тынк, папера ад сьцяны. Астацца ў 2-м значэньню часта чуў я ў народнаj мове, паміж jіншым у Ашм. і Валож. пав., ужывае яго тож М. Зарэцкі (гл. слоўнік на бал. 117 гэтае кніжкі).

Дзеяпрыкмета ад астацца ё **асталы**—pozostały z tyłu od kogo, оставшійся; ужываецца паміж jіншым у „Аль-Кітабе".

**выпыты**,-аў, адно ў мн. ліку. На выпытах ня прызнаўся. Пол badanie, рас. допросъ Сл. Насовічаў.

**ганячка**,-і — пол. biegunka, рас. поносъ. Зап. мој у Ашм. п.

**далёкавокі**,-ага, запісаў я ў Ашм. пав. каля Барун і Крэва—загана вачоў, калі чалавек дробныя рэчы адно далеj бачыць, а блізка бачыць ня можа. Праціляжная загана **далёкавокасьці** ё **нізкавокасьць** альбо **нізкасьць на вочы**. Прыкмета—**нізкі на вочы, нізкавокі**—krótkowzroczny, близорукій; зап. там-жа.

**драбязьлівы,-ага**, зап. я ў Ашм. п.—drobiazgowy, мелочный.

**дроб**, -а, зьмянш. драбок, -бка, **драбочак, -чка**. Кажам дроб, драбок солі, дык трэба казаць такжа дроб, драбок (а не кавалак) цукру і пад. Будзе—драбовы цукер.

**жарало,-а**, зап. я ў Ашм. п. Дзіра, скуль выцякае вада із зямлі, завецца жаралом. Калі жарало на толькі вялікае, што зь яго можна чэрпаць ваду, дык гэта будзе ўжэ крыніца ці ўзнор; аб апошнім ведаем ад Нікіфароўскага, што яно ўжываецца ў Віцебшчыне. Жарало ўжываецца такжа ў значэньню пераносным: кажам аб жаролах купляных, жаролах багацьця, жаролах навуковых і jіншых. Зьмянш. ад жарало будзе—жаралцо. Пол. źródło, рас. источникъ.

**jідучы,-ага**—bieżący, текущій сл. Насов., 224. Трэба казаць: jідучы месяц, jідучая работа, справы і пад. Ужыванае нярэдка „бягучы" ё полёнізм, пераняты пераз мову ўкраjінскую. Ня ўсё тое добра, што Украjінцы пярэjмуць ці пераробяць.

**каўзель,-зяля**. Хлопцы коўзаюцца на каўзялю сл. Нас.—ślizgawka, катокъ.

**каўзун,-а, каўзуха**,-і—тоj, тая, што коўзаецца. Прыр. сл. Нас.

**каята**,-ы—pokuta, skrucha, покаяніе. Слова ўжываецца ў Аль-Кітабе, у jіншаj беларуска-мусульманскаj кнізе, разгледжанаj В. Вольным „Узвышша" № 4 з 1927 г. і ў казках Сержпутоўскага, запісаных у Случчыне.

**кідлівы,-ага**, зап. я ў Ашм. п. каля Крэва—rzutki, проворный, оборотливый. Адгэтуль **кідлівасьць**—rzutkość, проворство, оборотливость.

**мыцьцёха**,-і Нікіфароўскі, Віц. Беларусь—жанчына, што мые хусьце, praczka, прачка.

**мыцяльнік,-а**—памяшчэньне, дзе мыюцца, судзіна да мыцьця; umywalnia, умывальникъ.

**нізкавокі,-ага, нізкі на вочы,** гл. **далёкавокі.**

**пагулянка**,-і—час паміж лекцамі ў школе, pauza, перемѣна, зап. мој. З гэтым значэньням зьвязаны назоў дзьвюх вуліцаў у Вільні — Вялікая ј Малая Пагулянка. Ня можа быць сумлеву, што назоў гэты беларускі.

II. У кожнај літаратурнај мове, навет најразьвітшај, штучна твораць новыя словы. Калі-б мы паглядзелі, колькі ў цяперашнюю часіну створона новых словаў у нямецкај мове і ў беларускај, дык пабачылі-б, што ў нямецкај jіх створона мо' сто разоў балеј, як у беларускај. Гэта ня значыць, каб беларуская мова менеј патрабавала нова твароных словаў, але што мы яе патрэбы ў гэтым не здаваляем ці здаваляем надта мала.

Адмовіцца, ад тварэньня новых словаў у якој мове, значыць паддаць такую мову пад пераможны ўплыў суседніх моваў, гэта значыць засудзіць яе на ўпадак і мо' навет загубу.

Але тварыць новыя словы трэба паводле законаў дадзенае мовы, паводле асноваў, суфіксаў і значэньнеў мовы, паводле ејнага духу.

**выбег**,-у. Мы дагэтуль ня маем слова дзеля передаваньня пајма, абазначанага ў пол. мове штучна створоным словам „wycieczka", а ў рас. лацінскім „экскурсія". Апрача сказанага вышэј, загана таковых пазычаных словаў, як „экскурсія" і пад. яшчэ тая, што палавіна народу jіх не разумее, а ладне jіншых разумее не даволі добра. Із славянскіх словаў дзеля передаваньня гэтага пајма најадпавяднејшае ё чэскае vylet (таксама штучна ўтваронае). Але лепшае за яго будзе *выбег* (бо не вылятаюць, але выбягаюць), каторае я ј прапаную ўжываць у беларускај мове. Хворма яго чыста беларуская: як маем б е г—б е г ч ы, так в ы б е г ч ы — в ы б я г а ц ь — в ы б е г (націск на *вы-*).

Тој, тая, што робе в ы б е г альбо прыјмае ўчасьце ў выбегу, будзе—**выбежнік, выбежніца**. Выбежнікі паміж сабој будуць — **сувыбежнікі**.

**хусны мыцяльнік**. У I. прыведзеныя народныя словы м ы ц ь ц ё х а, м ы ц я л ь н і к. Як назваць памяшчэньне, дзе мыюць хусьце? Најляпеј да м ы ц я л ь н і к дадаць х у с н ы— х у с н ы м ы ц я л ь н і к. Прыр. а ў ч а р н і к, д р ы в о т н і к (часьцеј, чымся д р ы в о т н я і jінш.). Пол. pralnia, рас. п р а ч е ш н а я.

**Д-р Я. Станкевіч.**

(Далеј будзе).

# Мова „Сьцежкаў-дарожкаў" М. Зарэцкага.

*(Канчатак).*

Цікаўныя дзеяслоўныя суфіксы *-аце-*: зашамаце-лі асьцярожныя крокі 130, задрыг-аце-ла 197, грукаце-ў 224, прагрукацела артылерыя 307, Шап-аце-лі чырвоным сваім лістападам асілкі-дубы 393.

Гэтыя суфіксы абазначаюць здрабненьне дзејнасьці, дзеясловы з гэтымі суфіксамі могуць быць названы зьмяншальнымі (прыраўнуј: дрыг-а-ць і дрыг-аце-ць, драг-а-ць і драг-аце-ць, грук-а-ць і грук-аце-ць, лоп-а-ць і лап-аце-ць, міг-а-ць і міг-аце-ць, а з выпалым *-а-*—мігцець альбо мыгцець, бразгаць і бразгацець).

У цеснај сувязі із суфіксам *-аце-* стаіць дзеяслоўны суфікс *-уце-*, *-уці-* (*-юце-*, *-юці-*): лят-уце-ць (ад ляцець), цян-юці-ць (ад цяніць).

Адцемлю яшчэ адзін дзеяслоўны суфікс — выняў 255.

Адным із суфіксаў дзеля тварэньня ласкавых јімёнаў ё *-ьк-а* (ь пакінуў па сабе сьлед зьмякчэньням папярэдняга сугуку). Гэта адбілася ј у „Сьц.-дар.": Іванька 61,110, Іваньку 109.

## Хвормы.

Наз. јімёны зборныя: прыкрыўшыся *кусьцям* 62, абрасьлі зьбітым у непралазную глуш *кусьцям* ляшчыны 330, пројдзем па *закустоўю* 330.

Астача парнага ліку (ад *вока* ј *вуха*): *у вушшу* шаломным звонам зьвініць цішыня 130, мільгаў *у вачу* 157, зьвініць у *вушшу*.

Канчатак род. скл. адз. л. наз. јім. на *-у*: абрыўкі *туману* 66, зборка была каля грамадзкага *сьвірну* 68, жыў вылучна настроям гэтага *вечару* 215, золку 285, да самага золку 297, адыјшла ад *ложку* (наз. скл.—ложак) 347.

Месны скл. мускіх асобаў канчаецца на *-у*: У вадным *бандыту*.

Родны скл. мн. л. јім. ніякіх і жан. на *-аў*/*-еў*: сэрцаў 197, пачуцьцёў і перажываньняў 235, рысаў 118, рэчаў 369.

Творны скл. мн. л. на *-мі*: коньмі 286.

Месны скл. мн. л. на *-ох* (*-ёх*): у грудзёх 57, 65 136, 259, у вачох 99.

Чужыя јімёны на *-іст* скланяюцца ў беларускај мове як прыкметы: кожны соцыялісты 198, соцыялістага ib., называе соцыялістым ibid.

Хворма прыкметы на *-ельны*: хацелася стаць

прад ёј на калены і ў *малельнај* радасьці сузіраць бясконца гэта непераможнае хараство 212.

Лічба абодва скланяецца паводле прыкметаў — абодвых бакоў 242.

Адцемлю некаторыя хвормы зајменныя: *усяе* глыбіні 64, я *ёј* засею 73, памог *ёј* 111, зь ёј 110.

Дзеясловы IV клясы (дзяленьне Лескінава) і па *ч*, *ж*, маюць аснову на *-е-* (*-э-*): прабурчэў 32, 199, 188, тырчэла 44, бурчэў 51, 114, 134, блішчэла 64, 88, блішчэла вачмі 218, гучэла 71, дрыжэць 72, дрыжэў 99, сьвішчэў 111, 114, 335, гучэлі 134, 221, дрыжэлі 134, 244, гучэў 136, брынчэць 142, блішчэў 149, забурчэў 189, забліщчэлі 193, зычэла 254, мычэць 291, затрашчэлі 295, прагучэць 274.

У „Сьц.-дарожках“ ад гэтае формы нямашака жадных водхінаў.

З прыслоўеў адцемлю толькі гэткае: *Аднојчы* ўвечары ...зајшоўся Халіма 119.

## Сынтакс.

Гэтта таксама адцемлю адно некаторыя зьявішчы.

М. Зарэцкі добра ўжывае прыналежныя прыкметы (а ня родны скл. наз. јім.). Колькі прыкладаў: горкая ўсьмешка Макрыніна 43, каля Лявонавае хаты 75, Л... лавіў Рыгоравы словы 96, Іванькаву дудку 110, Адзін голас быў бацькаў 115, Смачны мёд шчамяліны 140, у жудасным вешчаваньню Андрэевым лунаў чорны цень 175, узварушылі яго Макрыніны сьлёзы 73, абачыў Андрэя, гаспадаровага сына 16, Нінін твар 38, увајшлі ў Халімаў пакој 189, матросавы словы ткі спраўдзіліся 282, Ці адчувала ў тую часіну матчына сэрца 289, любіць Нінінага сына 319, бацькава мудрасьць 97, Дзіўныя сталі вочы Андрэевы 151 і г. д.

Дзеяпрыкметы (participia) на *-лы*: быў адным згусьцелым адбіткам захапленьня 29, работнік у скураној аблезлај тужурцы 30, стаяць асалапелыя 34, баяцца змачыць набраклае жыцьцёвым сокам гальлё 34, Коціцца пад нагамі стары пасівелы Дняпро 35, прамінулага 39, Матрунін змораны, аслабелы адкінуўся ў крэсла 43, мяккі застыглы гуд 53, воды Дняпра хаваюцца пад нізка навіслае веццье 59, Ён ледзь выбраў сярод навіслага над вадој лазовага веццья месца 85, Такое дајмо робяць старадаўнія шчарнелыя ад часу партрэты 85, сеў там на струхлелую паламаную лаўку 86, Я ляпеј паважаю цяністы халадок гэтага зьдзічэлага саду 87, далёка запалыя вочы јіскрыліся чорным агнём 89, Лясьніцкі з мамэнт стаяў аслупянелы 99, Быў ён чэзлы такі, слабенькі,

рос сабе цішком, ніхто яго ня бачыў, ніхто не чапаў 109, Вакол яго вырасла шчытнае роўнае кола застыглых у војстрај цікавасьці сялян 120, пајшоў назад—асалапелы, зьбянтэжаны 120, дзе-ня-дзе ўзьляціць асалапелая перапёлка 139, Абы толькі пачуў каторы касец јіх недалужна завязлае ў траве зьвіненьне 140, устрасянулася тое застыглае, закаржэлае, што было з Макрынај 156, сноўдаўся „Карла“, аддаючы загады грубым асіплым голасам 165, на спусьцелај пляцоўцы ..стајіць Андрэј 169, Дзе знајсьці прытулак азьнібеламу сэрцу 178, захроп асіплы ад зморы паравік 177, патрэбны штуршок застыгламу ў валедзянелых хвормах жыцьцю 174, насілася гэта перада мној такім нејкім разьбеглым туманом 181, пачаў выціраць густа спацелы твар 182, прыціхла ў нејкај застыглај паставе 193, мільгнуў аброслы ласкавај расьліннасьцю твар 203, Здань небясьпекі супроць волі ашалелага кодла.. прыјмала.. выразныя пэўныя хвормы 221, Прајшла гэта зіма для Лясьніцкага.. у няўпынным зьнібеньні збалелага сэрца 244, Зьбялелы, устрывожаны ён кідаецца да Лясьніцкага 251, абачыў ён зьбялелы твар 255, сядзеў застыгла ў кутку ibid., Л. ўпяў у яго свој асалапелы пагляд 259, Л. стаяў, як скамянелы 264, пачуў сябе захмялелым 280, Зь недалужна і неяк сьмешна адвіслај левај рукој 287, У лесе пахла.. цёплым дыханьням пышна набраклых пупушак 282, у сьцеражліва застыглај цішы выразна адзначыўся дробны трэск агню 294, нешта цiснула тупа навіслым цяжарам 297, паглыбіла рысы твару, зрабіла јіх рэзкімі, акамянелымі 301. Барацьба агаляе ..жыцьцё, узварочуе яго, як капу заляжалага сена 303, недалужна кідаліся туды-сюды асалапелыя ваякі 306, стаў падобны да нејкага заняпалага сьвятога 308, тапілі ў цягучых хвалях парна застыглага ваду 321, была на дзіва сьвежая, загарэлая 323, глядзела на пасінелы тварык малога 347, праседзілі ў нејчым глухім затравянелым садку 352, абціраў хусьцінкај спацелы твар 359, пачуўся супакојны, адзервянелы ..голас 373. Ня мог знајсьці месца свајім убога асалавелым вачом 376.

Як бачым, замест нясіснуючае ў беларускај мове дзеяпрыкметы на *-шы*, скрозь маем дзеяпрыкмету на *-лы*, што зусім прыродна, бо абедзьве дзеяпрыкметы мінулага часу і абедзьве дзејныя. Ня маючы дзеяпрыкметы на *-шы*, беларуская мова вельмі шмат вытварыла дзеяпрыкметаў на *-лы*.

Дзеяпрыкметаю на *-лы* ў Зарэцкага можа пачынацца пабочнае казаньне (сказ). Вось прыклады:

Ён пачаў гаварыць.. выкідаючы шурпатыя словы, аброслыя мохам густој хрыпоты 30, мужчына з дробным тварам, аброслым кароткај.. бародкај 70, ён, абамле-

лы ад страху, адмахаваўса ад jіх ценькім сваjім кіёчкам 82, Усё гэта даходзіла ў вёску ў перакручаным выглядзе, аброслае кароj выдумак 154, гэта трупік сіўкі-варонкі, ужо добра загнілы 181, У вадным бандыту.. аброслым купкаватаj расьліннасьцяj — здалося Л. нешта знаёмае 376.

У паходзячага з усходняе Беларусі і прытым вольнага ад якіх колечы польскіх уплываў М. Зарэцкага пачынаньня пабочнага казаньня дзеяпрыкметаю на *-лы* жадным спосабам нельга ўважаць за полёнізм. Гэт'кае ўжываньне ё асаблівасьцяj агульна-беларускаj.

У дужках зацемлю, што проф. І. Агіенка (Огіенко) ў сваёj вялікаj працы „Українська літературна мова XVI-го ст. і Крехівський апостол 1560-х р.“ на бал. 435 свае працы зацеміў „У КА“ (Крэхаўскім апостале - Рэд.) дзеяпрыкмета на *-лы* можа пачынаці j пабочнае казаньне, чаго звычаjна жывая ўкраjінская мова ня знае; у КА падобныя хвормы можна ўважаць за полёнізмы“. Але там-жа праз колькі радкоў аўтар дадаў „Але напару бачым, што перакладчык КА пачынае пабочнае казаньне хвормаю на *-лы* навет тады, калі гэтага няма ў польскім арыгінале“. Дыкжэ памоjму таковае ўжываньне ў Крэхаўскім апостале дзеяпрыкметы на *-лы* ё ня польскім уплывам, але беларускаj асаблівасьцяj.

Ужываньне прыjмені *у*. Адцемлю адзін прыпадак ужываньня прыjмені *у-ў*: у вачох у яе гарэў агонь 99, пракаўзнуў па твары ў яе цень грэблівае грымасы 177, Ну як? — папытаў Лясьніцкі ў Халімы 205, Л. зацеміў, што ў яе дрыжэлі рукі 134, раскрылася ў нутры ў яго тупая мулкая пусьціня 255, Пётра.. шчупаў на поясе ў брата наган 392

## Споўнік.

Адныя словы перакладаю на польскую мову, другія, дзеля точнага перакладу каторых не стае матар'ялу ў разгляднаj кнізе, пакідаю безь перакладу. Не перакладаю такжа словаў і безь перакладу ясьнюсенькіх.

**Аберуч**—oburącz. адзін салдат браў аберуч 307.

**абязьвечаны,-ага**. нечым накрылі абязьвечаны труп 230.

**агаляць,-яю**. Восень.. агаляла.. карчы 63.

**агарнуць,-у**. мімаволі самога агарнула неjкая ліпучая жудасьць 134, агарнула сьветлая цішыня 179.

**адзаду** — 1) z tyłu. ён шпарка шчэз у вагоне, быццам уцягнуты неjкім адзаду 229. 2) poza. асталося туманным сном неjдзе адзаду 279.

**адзін**. падганяюць адзін аднаго 139; пазнавалі адзін аднаго 242; jідуць адзін з адным 139; ня пара мы адно аднаму 240; Праца паjшла яшчэ спарнеj, бо адны адных падганялі 146.

**адкаснуцца,-уся** — odczepić się.

Ядкасьніся! Я сам раскажу 377.

**аднојчы** — pewnego razu. Яднојчы ён такім парадкам наткнууся на Халіму 50, Яднојчы.. зајшоў ён быў у сасоньнік 79.

**адумысловы, - ага** — specjalny. проста кідала кароткія ј няскладныя пагрозы напалам з брыдкімі цяжкімі словамі адумысловае лаянкі 228.

**адхінуцца, - уся** — odchylić się. Яна моўчкі адхінулася 136.

**адылі** — atoli. Біць... ж-жыдоў... Выјшла дужа сьмешна ј недарэчна. Ядылі аказалася, што ён быў п'яны 21; Я-ж вам казала, Васіль Данілавіч, што ня трэба јсьці, бо ў мяне дрэнна. Ядылі сядајце цяпер ужо 372.

**азяленьне,-я.** Гэта было нејкае азяленьне 330.

**ајчына,-ы.** хто даражыць нашај ајчынај 21.

**алехавы,-ага.** Ён пајшоў к Дняпру і там лёг пад шырокі алехавы куст 74.

**апанаваць,-ую.** Мужчынам сёдня не балазе. Япанавалі бабы прыцісьнулі плојмај крыклівај 145.

**арэлі,-еў**—huśtawka. гоўтаешся на нявідных, лёгкіх, як вецер, а р э л е х 74.

**Арына.** Піліп дачку аддае — Ярыну 280.

**астацца,-нуся** — pozostać z tyłu od kogo. Халіма.. быццам хацеў уцячы ад Лясьніцкага, або падражніцца, прымусіць прабегчы трушком, каб не астацца 20.

**атруціць,-у**—otruć. Я-б атруціла яму ўсё жыцьцё 137.

**Аўтух**—хрышчонае імя. вакол Яўтуха 69.

**ахамянуцца,-уся.** Ён ледзь ахамянуўся, каб прывітацца 99.

**ахінуцца,-уся.** Куды ні зірнеш — усё агорнута нязвычајнај цудоўнај красој — ціхој, прыветнај, якая ўсяго ахінае нејкај празрыстај ціхінёј 61; Ледзь прыметны шызы налёт не зьмяншаў хараства гэтых вачоў —ён ахінаў толькі іх лятуценнаю мякчынёј 102; паўсталі ўваччу твары Яндрэя, Макрыны, Раісі — ахінуліся смутнај прыветнасьцю 178; дзеяпрыкметы: у іх было нешта далёкае, балючае, нешта ахінутае жудаснај трывогај 134; вызірнуў смутны твар Макрыны, ахінуты тым няясным, загадкавым, што прывязла яна зь места 184; вясна.. прынадна адкрыла прад ім ахінутыя новај цеплю прасьцягі 244.

**ашмётка,-і.** правая рука ў яго перавязана нејкај, ня надта чыстај, ашмёткај, на якој відаць цёмныя плямы крыві 31.

**балазе,** прысл. Балазе цёмна ў калідоры і цесна — ніякі кундуктар ня ўлезе 56; Мужчынам сёдня не балазе. Япанавалі бабы, пруцісьнулі плојмај крыклівај 145.

**балачынка,-і** — włókno (w obłokach). Па небе лёгка плылі беленькія пярэстыя балачынкі 74; млява сачыў за празрыстым ныраньням балачынак.. Разам з гэткімі балачынкамі паплылі ўваччу нядаўнія малюнкі-ўспаміны 184.

**балюча** 217 — boleśnie.

**басатва,-ы.** Знајшоў па сабе басатву 76.

**бескаранна**—bezkarnie. Можна

весела ј бескаранна насьміяцца 213.

**бледасьць** 394.

**бледы**. Ціха пајшла да таўпы, палахліва, няпэўна ступаючы па траве босымі, ненатуральна бледымі нагамі 167; Яна была бледая 231.

**блытаніна,-ы**—plątanina. пануе ў нутры прыкрая блытаніна 13.

**брасьнець,-ею**—pleśnieć. Шкадую цябе, што брасьнееш у затоццы свае зяленіцкае будзеншчыны 117.

**браценьнік,-а**. абачыў браценьніка 239; Успомнелася чамусьці матка... потым бацька, браценьнік 256.

**буркліва**— mrukliwie. на краскі буркліва прымошчаваліся вечныя поркалы - шчамялі 176.

**буяны,-ага**. Халіма ўжо справіўся быў навесьці ў пакоји буянае, як сам, бязладзьдзе 205; вырастаў буяны віхор вялікага народнага бунту 221; Усплылі ў думках Халімавы разважаньні буяныя, нясуладныя, як і ўся натура яго 305.

**бязрупатны,-ага**—beztroski. Ён прывык бачыць яе заўсёды вясёлај, бязрупатнај 37.

**бязуважнасьць,-і** — bezwzględność. пачуўся супакојны, адзервянелы ў сваёј бязуважнасьці голас 373.

**бярозавік,-а**—бярозавы сок. бярозавік сёлета дужа салодкі, добра сабраць дзежку на квас 33.

**быццам**—niby. Халіма ныраў у цемень зь нејкај наўмыснај пасьпешнасьцю, быццам хацеў уцячы 20; Тады прајшоўся яшчэ разы за два па пляцформе, быццам баяўся, каб чаго тут не забыцца, быццам што ўспамінаў 177.

**вад,-у** — znój, upał. Ішлі нязьменна адзін за адным бліскучыя дні (улетку—Піл.) поўныя густога вязкага ваду 78; абраз яе.. тапілі ў цягучых хвалях парна-застыглага ваду 321.

**вадкі,-ага**. У Л. заныла ў грудзёх, па целе пацякла нејкая вадкая млявасьць 259.

**важыцца,-уся** — śmieć. Л. яшчэ карцела аб нечым спытацца, але ня важыўся 268.

**варажбіт,-і** 163—wróżbiarz.

**веда,-ы**—wiedza. вучэце народ, аддавајце яму свае веды 43.

**верашчэць,-у**. Косы чыркалі здалеку квола, прыглушана, і здавалася, што гэта нејдзе зусім блізка верашчаць скачкі 172.

**ветласьць,-і** — grzeczność. Яна зьвязавала яго сваёј казённај ветласьцяј 275.

**ветлы,-ага** — grzeczny. Нікто ніколі ня бачыў, каб зьмяніўся яго твар, заўсёды аднолькава цёплы й ветлы 11; Такія добрыя мужчыны... Прыгожыя, ветлыя... 83; прыјшлося ветла-саладжава ўсьміхнуцца 177; Раіса слухала яго із спакојнај ветлај усьмешкај 275.

**відавочна** — oczywiście. Яна відавочна ўзрадавалася 205.

**вілаводзіць,-у**. Ты хочаш за мноj гаварыць, але? А калі не, дык чаго вілаводзіць... 377.

**вонках**—poza, zewnątrz. Дзьве людзкія грамады пачалі ј вядуць сьмяротную бојку. Вонках ня станеш ад јіх 304.

**восенскі,-ага** — jesienny. восенскі вецер 131.

**вусны,-аў** — usta, wargi. баляць салодкім болям на вуснах тыя гарачыя палкія пацалункі 161.

**выдумляць,-яю** — wymyślać. пялі песьні, каторыя самі-ж і выдумлялі 63.

**выстацца -нуся** — pozostać. Як прыјшлі чырвоныя, у нас блізка што ўсё конфіскавалі, а што высталася — прыјшлося прадаць 369.

**высьпятак,-тка** — kopnięcie (nogą, obcasem). Ад другога высьпятка ён ускочыў на ногі і гатоў быў рабіць усё, што яму загадаюць 286; не давалі ёј высьпятка 307.

**гаваркі,-ога** — rozmowny. Астаўся адзін Тэкінец — відаць гаваркі 259.

**галавенчык,-а** (рыба). Паміж јімі шпацыруюць поўныя напышлівае грацы маладыя ялцы ј галавенчыкі 53.

**галадоўля,-і** — głody. Расьце галадоўля 110.

**гамонка,-і** — rozmowa. Тут вось якая гамонка 94; выгляд ды яшчэ гамонка—пасьпешная, перарываная частымі аддышкамі, — усё гэта заражала нејкај руплівасьцю 299.

**гарэзасьць,-і.** Тады загарэлася ў јім шалёная гарэзасьць. Захацелася зрабіць нешта нечакана-сьмелае, каб зьдзівіць яе, зьбянтэжыць 81.

**гарэзны,-ага.** У Лясьніцкага ў сэрцы закіпеў малады задзёр. Хацеў адказаць нешта гарэзнае, але, пакуль надумаўся, было позна 6.

**гарэзаваць,-ую.** А Дняпро жартуе, гарэзуе зь јімі (зь дзеравамі—Пі л.), трэцца ў нагах 34.

**гарэзьлівы,-ага.** Асьветлены гарэзьлівым блескам групкі, М. здаўся сымпатычным 41; Яна гарэзьліва сьміялася 210; рассыпаліся тонка-сраб-рыстымі гарэзьлівымі званочкамі высокія, як неба, жаўранкі 172.

**гарапашны, - ага.** Ціха цячэ жыцьцё гарапашных сялян 49.

**горота,-ы.** Усё жыцьцё нястача, гарота 347; Захацелася мусіць і ёј расказаць пра жыцьцё сваё, пра гароту 37; Ён сьпяшаецца, бо ведае, што там шмат сьлёз, шмат гароты 43.

**гаротнік -** — biedak. мусіць трымаўся гаротнік 289.

**глыбіня, і** — głębia, głębokość. не разумеў ён тады ўсяе глыбіні яе гора 64; Андрэј.. пасталеў, нажыў больш.. глыбіні 116.

**голка,-і.** На голках маладзенькіх хвојкаў дрыжэлі каплі расы 244.

**гонкі,-ага.** Асабліва падабаліся Лясьн. канчаткі песьні— такія халодныя, гонкія, як восенскі вецер 131.

**гоўтацца,-юся.** Недалужна гоўтаўся човен 221.

**грап,-а** — hrabia. сабачка ў грапа прапала 44.

**грэблівы,-ага** — pogardliwy, wzgardliwy. пракаўзнуў па твары ў яе цень грэблівај грымасы 177; Гэта быў тоўсьценькі чалавечак.. з арыстакратычна-грэблівај мінај на твары 212.

**груд, у** — 1) gromada. Сядзелі ўсе грудам на ложку 9;

2) Кира. На стале ляжаў грудок кніг 362.

**грукат,-у** 232; Яго перабілі грукатам, шумам 52.

**гулец,-лца** — gracz. шахматны гулец 389.

**гуляць,-яю** — 1) bawić się. у жмуркі гулялі 321; 2) grać (w karty i inn., lecz nie na instrumencie muzycznym). частка (хлапцоў—Піл.) асталася гуляць у дваццаць адно 11.

**гурма,-ы**– gromada, tłum. абачылі гурму народу 119. А ўжо ў самае лета хадзілі гурмаj угару 62.

**гутарка,-і** — rozmowa. Гутарка ў jіх была прасякнута сяброўскаj мякчынёj 99.

**гушчар,-а**—gęstwina. перазь пераблытаны гушчар палез у гару 85.

**даведацца,-аюся**—1) dowiedzieć się. 2) odwiedzić. Там Дняпро робіць вялікую луку, амаль на вярсту разганяецца ў бок, быццам забыўся, што трэба даведацца ў вёску 62.

**даверлівасьць,-і.** гэты пагляд раптоўна абудзіў у Л. цёплую даверлівасьць 301.

**даверлівы,-ага.** даверлівая надзея 167.

**дадзець,-ну** — naprzykrzyć się. Халіму гэта, відаць, троху дадзела 384.

**да душы** — dalibóg, dalipan. Я цябе люблю, да душы люблю 160; Я да душы рада, што вас сустрэла 210.

**дакоскі,-аў**—1) zakończenie sianożęcia, 2) uroczystość z powodu zakończenia koszenia siana. Як будуць дакоскі — во будзе пацехі! 140.

**да налецьця,** прыслоўе — do przyszłego roku. Прыjдзецца чакаць да налецьця, а сёлета так-сяк даставаць за грошы 98.

**дарагоўля,-і** — drożyzna. Мяшчанства.. жалячыся на дарагоўлю харчоў, чакала ўсё нечага 98.

**даўжыць,-у**– dłużyć. Можна яе караціць, даўжыць 182.

**даўкі,-ага** — dławiący. асела на сэрца нешта цяжкое, даўкае 90; гатова была парваць цяжкі пласт даўкага страху 167.

**дзеjкаць,-аю.** Ды пра яе-ж, пра паненку... Ат, можа j няпраўда гэта зусім. Мала што дзеjкаюць людзі... 113; jіншыя дзеjкалі, што j цяпер яна неjдзе жыве, мо' ў Амэрыцы або Сібіры ibid.

**дзівосны,-ага.** могуць паўстаць у душы цені дзівосных малюнкаў, дзівосных падзеj 60.

**дзявоцкі,-ага** — dziewiczy. у вачох у яе гарэў агонь... маладога дзявоцкага задору 99.

**дзяцьвішча,-а**– dziatwa. паjшла чарада бедных завулкаў.. з брудным дзяцьвішчам 299.

**долу** — na dół. недалужна заграбаў рукамі, сударгава хапнуў некалькі разоў паветра і пасунуўся долу 284.

**дрэма,-ы.** была адна неjкая тлумная дрэма 78.

**дрыгота,-ы** — dreszcz. У Л. пацякла па целе халодная дрыгота, моцна забілася сэрца 252.

**дрыготны,-ага** — migotliwy. У вакно зазірнула чырвонае з заходу сонца, лягло мякка-дрыготнымі плямамі на абрус 77; дрыготнае сьвятло лямпачкі 163.

**дуронства,-а**—swawola, dokazywanie. выбіраў наjнебесь-

пячнейшыя пляны, даходзячы напару да зусім непатрэбнае рызыкі ј дуронства 315.
**ды**, злуч. шчытней ды шчытней сьціскалі 375.
**жавіны,-аў**. Распусьцілі свае цупкія лапкі жавіны 63.
**жанчына,-ы**—niewiasta, kobieta. Я-б яго ненавідзела, як толькі можа ненавідзець жанчына 137; Я кахаю дзьвюх жанчын 184.
**жаўранка,-і**—skowronek. рассыпаліся тонка-срабрыстымі гарэзьлівамі званочкамі.. жаўранкі 172.
**жаўтлявы,-ага** — żółtawy. Яна нярухома глядзела на жаўтлявы агонь 344.
**жах,-у** — strach (duży i ostry). працятая нејкім хваравітым жахам яна кінулася ад вады 135.
**жахліва**—straszliwie, okropnie. сустрэўшы нечую ўсьмешку, жахліва замятушылася 167.
**жудасьць,-і**. патыхнула аднекуль таемнај жудасьцяј 36; Веяла тут, у гэтым сасоньніку.. нејкај жудасьцю — дзіўној і недарэчнај сярод поўнага блеску гарачага летняга дня 80.
**жудасны,-эга**. У јіх (вачох — Ніл.) было нешта далёкае, балючае, нешта ахінутае жудаснај трывогај 134; пагрозна ј жудасна шасталі павадкі 37; гаварыла, што бајіцца нечага, што ёј жудасна 319.
**забушаваць,-ую**. забушавала кіпучая весялосьць 285.
**завіханьне,-я**. Мужчыны падсьміхаваліся над бабамі, над јіх дробным, няспорным завіханьням 146.
**завіхацца,-аюся**. пад сьмех спарнеј јідзе праца.. шчырэј завіхаюцца рукі 139.
**заводца,-ы**—podżegacz, herszt. На паром узыјшлі толькі чалавек зь пяць — самыя заводцы — рэшта асталіся на беразе 106; каб ня тыя заводцы, дык-бы супакојна купілі ў пана луку 150.
**задацца,-мся**. Ноч тая задалася сьляпая 335; гл. **незадача**.
**задзынкаць,-аю**. задзынкаюць начныя жукі 60.
**задумляцца,-яюся**—zamyślać się. сама яна потым задумлялася 194.
**зазіраць,-аю** — zaglądać. пачалі зазіраць адна за адну 321.
**закалаціцца,-уся**. Яна сударгава закалацілася 329.
**замануцца,-нуся**. Заманулася Л. расказаць, як калісьці Ніна пра Славіна гаманіла 314.
**замеці**. Ведаеш, Васілёк, аб чым я рада? Што не замела ад цябе дзіцяці 241.
**замінаць,-аю**. вон з дарогі, не замінај! 305.
**замужка,-і** — niewiasta zamężna. ён здаўна прывык яе знаць, як замужку 325.
**замятуха,-і**. На сяле јшла замятуха. Хадзілі ўсе злосныя, раздражнёныя.. усе гатовы былі адзін з адным грызьціся 149.
**замятушыцца,-уся**. сустрэўшы нечую ўсьмешку, жахліва замятушылася 167.
**занекаць,-аю**. Ён ня стаў навет гаварыць ізь сялянмі, адразу занекаў.. замахаў сваімі маленькімі ручкамі 100.
**занятак,-у**—zajęcie. Яна была ў гэты час цалком захоплена сур'ёзным заняткам 80.

**запалы,-ага** —zapadły. паказала глыбака запалыя вочы 343.
**запярэсьціцца, -уся** — zapstrzyć się. запярэсьціўся луг морам рознакалёрных істужак 145.
**зараць, -аю.** Яны вярнуліся ў мястэчка, як пачало ўжо зараць 338.
**засіліцца,-юся**—powiesić się. думаў чамусьці аб тым, на якој яблынцы ляпеј за ўсё было-б засіліцца 181.
**застыглы- га.** Л.. часта засьпяваў яго тупа застыглага 317.
**засынаць,-аю** — zasypiać. Засынаеш, укалыханы музыкај павадак 34; як лажыўся і як засынаў Л. ужо зусім ня помнеў 285.
**засьпець, -ею,** мнагар. **засьпяваць,-аю**—zastać, zastawać. Ён засьпеў яе дома і яна навет урадавалася, што ён прыјшоў 216; Ён ведаў, што можа яе не засьпець, што можа прыјсьці ў няўдалы час 215; Нешта раз Лясьніцкі засьпеў яе асабліва ўстрывожаную 226; Л. јзноў зајшоўся да Ніны і на сваё вялікае дзіва засьпеў там Андрэя 319; у пачатку восені вярнуўся Л. ў места, ён засьпеў там надзвычајна нэрвовы мятушлівы настрој 349; Л. часта засьпяваў яго тупа застыглага 317.
**засьціць,-у.** пачалі засьціць сонца пракудніцы - хмаркі 321.
**з'асяродзіць,-у**—skupić (uwagę). сваю ўвагу з'асяродзіў на тым, каб давесьці јіх гістарычную нямінучасьць 224.
**затоены,-ага.** сядзеў глыбокі, затоены Гольдзін 333.
**затым,** злуч. ён выкладаў тое, што сам пераЖыў, аб чым перабалеў свајім сэрцам. Мабыць, затым і расла паміж јім і сялянамі блізкасьць, мабыць, затым яны яму верылі 393.
**зацінаць,-аю.** мімаволі кожны ўдалы рух ездакоў сустракалі спачувальнымі ўскрыкамі і цяжка зацінали дыханьне, калі тој ледзь-ледзь трымаўся 144.
**зацкаваць,-ую** — zaszczuć. Яшчэ сабакамі зацкуюць 86.
**зацяпліць,- ю, - цца, -юся**—zapalić, -ć się. Сонца.. зацяпліла ў хаце прытульнасьць сямејную 77; Потым ізноў зацяплілася ў нутры ранејшая гарэзасьць 86; абраз Раісін сьмела ўварваўся ў тое зладнае, добрае, што было зацяплілася ў дзень 161; замест ранејшага гневу цяпер зацяплілася ў сэрцы ў Лясьніцкага сымпатыя да Андрэя 170.
**зацяць,-тну.** Ніна сударгава зацяла вусны, каб схаваць сваё хваляваньне 344; дзеяпрыкмета: сядзелі ўсе хмурыя ад зацятага ў нутры спачуваньня 345. Глянь **працяцца.**
**звонку**—z zewnątrz. жылі там (у зарасьніку — Піл.) цэлымі днямі, нявідныя звонку, бы краты ў свајіх падземных норах 63.
**здаваленьне, -я** — zadowolenie. Было ў нутры поўна здаваленьня 78.
**здáлеку** 89—zdaleka. сьмілася здалеку 146.
**злавацца-,уюся**--złościć się, gniewać się. Ня злујся, Васільку 84.
**зморшчка,-і**—zmarszczka. Зморшчкі на лобе то распушча-

ліся, то јзноў зьбіраліся густа-густа 102.

**знадворку** — zewnętrznie. знадворку пачуўся стрымлены тупат каня 111; загараліся абтанкаваныя знадворку панскія пакојі 165: замкнулі знадворку дзьверы 255.

**золак,-лку**—brzask. Прачхнуўся.. і абачыў над сабој сталёвы сьвет раньняга золку 285; Яны праляжалі моўчкі аж да самага золку 297. **золачак,-чку**—зьмяншальнае ад золак. А золачкам не зацемілі, як падыјшла да самае вёскі јіхняя разьведка 295.

**золкі,-ага**. Памалу ў нутро ўплывае золкая жудасьць 130; Л. яшчэ нејкі час стаяў над вадој, апаласканы хвалямі золкага ветру 338.

**зыркі,-ага**—jaskrawy. у зыркім сьвятле.. полымя недалужна кідалася на ўсе бакі невялічкая кучка панскіх парабкоў 165. **зырка**, прысл. појдуць на бераг Дняпра, там загарацца зырка агні 127.

**зьзяць, - ю** — jaśnieć, świecić. Прырода зьзяла багацьцям 78; яна зьзяла здаровај чырваньню 99.

**зьнецікі** — znienacka. сочыць за ёј гарачым вокам шчасьлівы Іванька, каб злавіць яе зьнецікі 61; зьнецікі выліп на сьценах загад нямецкага комэнданта 306.

**зеляніва,-а**—zielenina. Лазьняк атуліў тој бераг шчытным радном зеляніва 59; Восень.. агаляла зусюль схаваныя ў зеляніве карчы 63.

**імклівасьць,-і** — pęd, impet. У такое надвор'е.. ня бывае шырокае імклівасьці 98; у вачох у яе гарэў агонь гордае імклівасьці 99.

**імклівы,-ага** — gwałtowny, natarczywy. Гукі аркестру спляліся цяпер з дружна-імклівым хорам людзкіх галасоў 24; вырываліся ў гару стаўпы злосна-імклівага полымя 168. Прр. маўклівы.

**јіхны,-ага** – ich. Усё ў јіхнај волі 237.

**калматы,-ага**. боўталіся калматымі карчамі сілуэты мужчынскіх галасоў 93; Ён вытыркнуў з будкі сваю калматую галаву 144.

**камочак,-чка**. села ў куток канапы, стулілася ў прытульны камочак 216.

**карагод,-у**. будуць карагоды ј скокі 127.

**караціць,-у** — krócić, skracać. Можна яе караціць 182.

**картыжнік,-а** — karciarz. А вы... картыжнік, да дзьвюх гадзін у карты гулялі 14.

**карцець,-чу**. А Славін так сама маўчаў, нешта думаў. Мабыць і яму карцела пагутарыць 45; Л. яшчэ карцела аб нечым спытаць 268; Прр. **корць**.

**касавіца,-ы**--sianozęcie, koszenie siana. у самы разгар касавіцы 390.

**кацяніцца,-нюся** — kocić się (o kotach). раскажа, як кацянілася котка 57.

**кволы, ага** — słaby, wątły. ён глядзеў на гэту маленькую ручку — кволую, як белая лялея 89.

**кіпцюр,-а** — pazur. мо' ладзіцца ўхапіць халодным кірцюром за горла 130.

**клычыць,-у**. Ён нязграбна порыць касој, клычыць траву

140; шэрај воўнај **паклычыўся** змрок 343.

**кольні** — 1) ile. Колькі ў вас зямлі? 49; Колькі вы зьбіраеце збожжа? ib.; А колькі радасьці... 62. **Колькіхоця** — ile chcąc. Мабыць чакаў, каб выгаварыліся ўсе колькі-хоця 41; калупаўся сам у сабе колькі хоця 321. 2) kilka. На Лясьніцкага зірнула колькі чалавек 6; Праз колькі крокаў ён упёрся ў Халіму 6; за колькі часінаў Халіма раптам спыніўся 32; На колькі часінаў запанавала маўчанка 138; Тады яшчэ колькі чалавекаў падхапілі 141; Колькі часін ён глядзеў на яе здалеку 170.

**коньнік,-а**—jeździec. паказаліся два коньнікі, якія галёпам нясьліся на сустрэчу 99.

**корць,-і.** ў крыважэрнај корці ўпіваліся ў вабязьвечанае пакутнае цела нашае бацькаўшчыны 243; прр. **карцець.**

**каса,-ы** — 1) kosa, 2) promień. Ты бачыў калі, як сьвеціць прожэктар? Ягоныя косы можна спыняць на якој-любя далячыні. Вось јідзе такая сьветлая, белая каса, а потым стоп, і далеј ужо цёмна 182; косы вячэрняга сонца зусім нізка слаліся па завулках 300.

**крамяны,-ага.** Андрэј.. сам такі шчытны, крамяны 17; Там адна мая дзяўчына — у яе крамянае цела 185; хвігурка яе прыемна круглілася крамянај поўнасьцю 325.

**краска,-і**—kwiat. у самы разгар касавіцы (сонца, краскі, чырканьне кос 390.

**кратаць,-цца**, сконч. тр. **кра-нуць,-цца**—ruszać, ruszyć. ніхто ня кратаўся зь месца 165; паром не кранууся зь месца 111; ён кранууў каня і падаўся на Андрэя 14'; захроп асіплы ад зморы паравік, і цягнік кранууся 177.

**крохкі,-ага** — kruchy, łomny. Сьнег на вуліцы зрабіўся бурым і крохкім 15.

**крумкач,-а.** зьбіраюцца крумкачы, пачынаецца чорны паход 116.

**крывяніцца,-юся** — krwawić się. Над лесам.. крывянілася неба 164.

**крыўдаваць,-ую**—krzywdzić się. Яна быццам крыўдавала на самую сябе, што ня можа ляпеј зрабіць 134; Ды я, Васілёк, ня крыўдую 240.

**куламеса,-ы.** У тој час чыгункі, із сваёј напорна-пасьпешнај заблытанај куламесај забралі былі на сабе. нэрвовае напружаньне эпохі. Акунуўшыся ў гэтую куламесу людзёў, мяшкоў... 389; Вось замяшалі, забаўталі.. добрую куламесу падняли 391.

**кучаравы,-ага** — kędzierzawy: вецьце кучаравага лазьняку 59.

**ладны,-ага** — znaczny. быў ладны мароз 5; ладную частку жыцьця ён правёў у турмах 41; гатуецца пераход за Дняпро ладнај групы нямецкіх салдатаў 319; ладна — znacznie. Халіма ладна выпіў 51.

**лајба,-ы.** За бартом лајбы мэлёдычна хлюпалі хвалі 110.

**лапатаць,-чу.** Макрына лапатала-лапатала ды раптам змоўкла 159; Макрына пачала наіўна лапатаць аб сваім дальшым жыцьцю 158.

**лапік**,-а — kawałek. Апошні лапік няскошанае сенажаці 140; па небе плылі.. хмары, спаміж якіх выглядалі лапікі сьвежа-сіняга неба 357.

**лашчыць**,-у — 1) głaskać, pieścić. Захацелася забыцца на ўсё, ласкі нечае захацелася — ціхае, чыстае ласкі..., як калісьці матка малога лашчыла 13; Колькі часін ён глядзеў на яе здалеку, працяты бязьмерным жалям, лашчыў яе ціхім, поўным адданај пяшчоты паглядам 170; ня хочаш, каб я палашчыў цябе, пажалеў 328. 2) łechtać (w znaczeniu przenośnem). Перавозьнік Саўка любіў Лясьніцкага. Можа лашчыла старое сэрца думка, што вось асьвячоны дзяцюк, а ня чураецца яго 107.

**ледзь** — ledwa. баяцца парушыць цішу навет ледзь чутным шолахам 79; Ён ледзь ахамянуўся, каб прывітацца, ледзь пасьпеў пасьпешным рухам зьняць сваю шапку 99, Лясьніцкі заціміў, як ледзь-ледзь крануліся куточкі яе вуснаў 177.

**лена** — leniwie. Л.. праказаў ня ўважна так, лена 14.

**лётаць** -аю — latać. лёталі іскры 56.

**ліст**,-а. Л. пісаў ліст Н. Славіну. Вось пачатак таго ліста: 178.

**лісьлівасьць**,-і — pochlebianie, chęć przypodobania się. Шпіг раптам страціў сваю лісьлівасьць і зірнуў на хлопцаў з рэдкај падазронасьцю 8.

**лісьлівы**, - ага — pochlebiający, przymilający się. неяк сьмешна, зь нязграбна-лісьлівым нязвыклым для яго прыніжэньням прасіў, маліў 165; **лісьліва**, п р ы с л. Шпіг загаварыў лісьліва і разам з тым злосна 8.

**ложак**,-жку — łóżko. легчы на ложак 12; сеў на ложак 115; адыјшла ад ложку 347.

**лыпаць**,-аю. Моўчкі лыпаў вачмі 201.

**любата**. Так прабяруць, так прабяруць.. І паноў і буржуеў і папоў... Любата! 76.

**ляснуць**,-у. З усяе сілы ляснуў кулаком па стале 223, зубы некалькі разоў ляснулі дзіка ј жудасна 260.

**лятунак**,-нку — marzenie. Ты-ж яшчэ большы рамантык, як я, ты сьмялеј, паўнеј умееш аддацца лятункам 179.

**лятуценнасьць**, - і — marzycielstwo. на ўсіх тварах плавала мяккая лятуценнасьць 335.

**лятуценны**, - ага — marzycielski. Гэта—.. шчырая лятуценная душа 365.

**мајстраваць**,-ую 110, 365.

**маўклівы**, - ага — milczący, małomówny. Жыве зь јім толькі нејкая маўклівая.. бабулька 40; паўстане супроць маўклівага закону 166.

**маўчанка**,-і — milczenie. скарыстаўшы гэту маўчанку, устаў раптам Халіма 27; На колькі часін запанавала маўчанка 138.

**мерны**,-ага — umiarkowany. ён пајшоў да яе шырокімі мернымі крокамі 81.

**месца**,-а 62, 63 — miejsce.

**мігцець**,-чу — migotać. Зајскрыўся яскрава-бліскучымі пералівамі, у якіх мігцелі, здаецца, усе колеры 181; с к о н ч. **замігцець** — замігцеў па-

лахлівым сьвятлом салодкіх імкненьнеў 395.

**мітусіцца,-уся.** За вакном толькі мітусіліся, лёталі іскры 56; у цёплай вадзе мітусяцца жвавыя ўклејкі 59; там мітусяцца акраўкі калматыя хмар 20; прыкм. **мятушлівы** — вярнуўся Л. ў места, ён засьпеў там надзвычајна нэрвовы, мятушлівы настрој, каторым было ахоплена ўсё насяленьне 349.

**мітусьня,-і** — zamieszka, rozgardjasz, zawierucha. Л. давала вялікую ўцеху думка аб тым, што ў гэтај заблытанај мітусьні, у гэтај людзкој завірусе ён бачыць.. сэнс 389.

**млявасьць,-і**—mdłość. ужо апускалася ў цела млявасьць 13; Л... усьміхнуўся цягуча і сонна, поўны цёплае прыемнае млявасьці 14; па целе пацякла нејкая вадкая млявасьць 259.

**млявы,-ага**—mdły. У дзьвярах ішла павольная таўханіна— з маруднај і млявај настојнасьцю людзі ўпіраліся ў дзьверы 31; прысл. **млява**— млява сачыў за празрыстым ныраньням балачынак 184.

**моўчкі** — milczkiem. хлопцы моўчкі чакалі 9.

**мудроны,-ага.** Ня люблю такіх мудроных 206; як разблытаць мудроны іх вузёл 394.

**мужнасьць,-і**—męstwo. Ён.. быў працяты глыбокај і цьвёрдај мужнасьцю 89; Ад яго цяпер яшчэ шырэј веяла.. ласкавај мужнасьцю 116.

**мулкі,-ага.** Але пераз мамэнт ізноў ужо нарастала ў нутры цяжкое, мулкае, ізноў пачынала крөіць сьвядомасьць рэзкімі зданямі трывогі 13; гутарка ўбілася мулкім ражном у ўзьняты настрој 45.

**мысок,-ска** Андрэј.. разглядаў мысок свајго бота 177.

**мятушлівы,-ага.** Глянь **мітусіцца.**

**навыперадкі,** прысл.—na wyścigi. ўсе ў чатырох навыперадкі пабеглі ў места 223.

**надвор,е-я,**— powietrze, pogoda. Яны вялі зважную гутарку аб надвор'і 68; У такое надвор'е ня бывае ў чалавека размаху ў далеч 98; Надвор'е было шэрае, цьмянае 106.

**надворны,-ага** — zewnętrzny, powierzchowny, pozorny. Гэты спакој толькі надворны, а там унутры, пэўне бурліць усё чыста 7.

**најмітка,-і** — służąca. Яе, горкую најмітку, якую гаспадар гоніць з хаты! 64.

**накановала** — sądzono, przeznaczono. Бацькі нашыя так жылі, дзяды так жылі, дык і нам, відаць, так жыць накановала 109.

**напасьледак** — nareszcie, nakoniec. І напасьледак ён завададаў усіхным настроям 124.

**наперасьпехі,** прысл.—na wyścigi. Ручаји беглі наперасьпехі 23.

**напята** — naścieżaj, naoścież. Праз напята рашчыненыя хатнія дзьверы то ўваходзілі, то выходзілі сяляне 119.

**нарагатацца, -уся** — nachichotać się. усе ўдостач нарагаталіся 247.

**наругацца, -аюся** — urągać się. Халіма сьмела наругаўся шпігу, а тој аж зелянеў ад злосьці 8; стаялі коса, няроўна, быццам наругаліся гаспадару 26.

**наспэ,-ы.** Былі.. шырокія пясковыя наспы 56.

**настојліва,** прысл. пачне там настојліва калупацца 223.

**насуплены, - ага.** „Карла“ выслухаў да канца ў тој самој постаці — нярухомы, насуплены 102.

**насычаны,-ага** — nasycony. стаяла мяккая цішыня, насычаная цёплым смаляным араматам 79.

**наўвеце**—na widoku. Лясьніцкі ня зьбіраўся распытаваць, ня меў наўвеце навет і ўспамінаць пра гэтыя сумлевы 194.

**наўкола** 35—naokoło. азірнуўся наўкола 157.

**наўкольны, - ага** — naukoło znajdujący się, okolny, okoliczny. У гэтым урачыстым наўкольным характве яна здавалася яму нејкај чароўнај фэяј 80.

**наўпярэјмы,** прысл.—na spotkanie. З за аднаго рогу наўпярэјмы јім выјшла кучка людзёў 44.

**на-цянкі**—prościutko. Вось ужо ј сьцежка, па якој на-цянкі можна прајсьці 129.

**невялічкі,-ага** —nieznaczny. І разам з гэтым паўстаў абраз Макрыны—невялічкае ј чорненькае.

**недаверліва**—podejrzliwie. Яна чамусьці прымушае Лясьніцкага недаверліва настарожавацца 28; Таўпа неяк нясьмела, недаверліва скомчыла свој гоман 122.

**недалужны,-ага** — niedołężny. І адначасна јшла.. недалужная брыдкая работа 19; вырваўся з вуснаў недалужны дакор 49; **недалужна,** прысл.—Раіса неяк недалужна сьхілілася 10; Стары недалужна зморшчыўся ј прасіпеў 111; недалужна кідалася на ўсе бакі невялічкая кучка панскіх парабкоў 165; Ен недалужна плюскаў јімі (вачыма) 182; недалужна гоўтаўся човен 221; недалужна заграбаў рукамі 284.

**незадача,- ы** — niepowodzenie. рашчараваньне ў неперáможнај моцы нямецкага мілітарызму, асабліва пасьля незадач на француcкім фронце.. — усё гэта стварыла прыяючыя ўмовы для бальшавізацы 316;

**нелюдзь,-і.** Што я нелюдзь якая, ці што? 327.

**непадперазаны,-ага**--nieopasany. Яна была ў лёгкај белај сукні, насьпех накінутај, непадперазанај 166.

**непарушны,-ага** — nieruchomy. устанаўлялася непарушная мяжа 225; агарнула непарушна ціхая цемра 164.

**неўзабаве** — niebawem. Неўзабаве і ўсе разыјшліся 13; Неўзабаве пачуўся тупат 101; павінен быў неўзабаве пајсьці ў јншы бок 231; Я таксама пајду неўзабаве туды 272.

**нецярплівасьць,-і** 12.

**неядомы,-ага** — niejadalny. Сярод грыбоў.. было палавіна валуёў.. і јншых неядомых экзэмпляраў 81.

**нікаць,-аю.** пачалі засьціць сонца пракудніцы-хмаркі дыј няўпрыцям згубілі яго ў сваёј грамадзе — пачалі потым шукаць, нікаць плојмај па небе, зазіраць адна за адну 321, сконч. тр. **паабнікаць** — А пачалі-ж потым

нас шукаць. Усе лясы паабнікалі, усе разлогі 296.

**нутраны,-ога**—wewnętrzny. Прагудзеў свајім нутраным голасам 6; агонь нутранога болю 167.

**ня јме.** веры ня јме 155 – nie daje wiary.

**някрануты,-ага.** Забіраюцца ў глыб, у някранутыя нетры травы 140, прыр. **кратаць.**

**няма ведама** — niewiadomo. І ўсьмешка яе няпрыгожая, дакучлівая—сьмяецца вечна, а чаго—няма ведама 15; падумалі няма ведама што 16.

**нястача,-ы** — brak, niedostatek, nędza. У кожнага было сваё маленькае, свая дробная нястача, дробнае гора 70; было агульнае вялікае гора і вялікая нястача 71; думкі ..пра заклятую спрадвечную нястачу 149; Усё жыцьцё — нястача, гарота 347.

**нясуладны,-ага**—nieharmonijny. Усплылі ў думках Халімавы разважаньні — буяныя, нясуладныя, як і ўся натура яго 305.

**нясьцерпны,-ага**—nieznośny. Гэта такая нясьцерпная мука, калі адзін, чыста адзін, калі няма каму слова сказаць 178.

**няўмека,-'**—nieumiejętny,-a. Яна быццам крыўдавала на самую сябе, што ня можа лепей зрабіць, што такая няўмека 134.

**няўпрыцям** — niepostrzeżenie, niewidocznie. пачалі засьціць сонца пракудніцы-хмаркі.. дыј няўпрыцям згубілі яго ў сваёј грамадзе 321.

**няўцямны,-ага** — niezrozumiały, niepojęty. быццам забываецца на часіну тое цяжкое, няўцямнае, што ёсьць заўсёды ў жыцьці 65.

**паблажэць,-эю**—gorzej wyglądać, zmizernieć. бачыў, што яна не паблажэла ні-ні, можа навет і папрыгажэла 147; абачыў, як яна паблажэла і замяшаўся 367.

**пабрацімскі,-ага.** зірнуў на Лясьніцкага зь нејкім пабрацімскім спачуваньням 214.

**пабрацца,-уся.** ня раз ужо гаварылі яны.. аб тым, каб пабрацца, каб пачаць супольнае жыцьцё 194.

**паводкі,-аў** — powódź. Дняпро адчувае сілу сваю ў веснавыя паводкі 34; Л. хадзіў глядзець паводкі зь Нінај 36.

**павець,-і**—poddaszek. На двары пад павецьцю абачыў браценьніка 239.

**пагадлівы,-ага** — współczujący. зазначыў дабрадушна-пагадлівым тонам 313; Лясьніцкі **пагадліва** ўсьміхнуўся 320. У іншых мясцовасьцех гэтае слова ё зь дзьвюма прыстаўкамі — с-па-гадлівы. Падобна-ж з аднэј прыстаўкаю маем **прыяць** (гл. казкі Сержпутоўскага).

**пагаліцца,-юся** — pożądać, zapragnąć. пан пагаліўся на добры кавалак зямлі 92.

**пагасьцяваць -юю**—gościć (u kogoś). пагасьцявала троху 232.

**падарожжа,-а**– podróż. дзе-б ён ні быў - ці ў лесе, ці ў полі, ці ў падарожжы 98, не захапіліся думкај аб бязмэтным вольным падарожжы 186; Л. расказаў аб мэце свајго падарожжа 247.

**падлыжны,-ага** — pochlebny. Ён жыдзенька сьмяецца падлыжным вінаватым сьмяшком 251.

**падпеp**азаны,**-ага** — opasany. Ён быў у нейкај вопратцы, падперазанај дзяжкаю 54.

**пазюкаць,-аю** — pogadać. Любіў стары пазюкаць зь Л. 107.

**пазяханьне,-я** — poziewanie. забурчэў сонным сіпаватым голасам скрозь магутнае пазяханьне 189.

**палахлівы,-ага** — lękliwy. загарэўся.. агонь няяснае, палахлівае радасьці 335; Яна јрванулася наперад, потым нібы сунялася ј ціха пајшла да таўпы, **палахліва** ступаючы па траве 167; Успомнеў вёску — не захацелася јсьці туды, **палохала** там нешта варожае, чорнае 177; разбудзіла **перапалоханая** асалапелая гаспадыня 338, **спалохацца,-аюся** — przestraszyć się. спалохаліся паны 110; **спалоханы** — przestraszony. Пачуўся спалоханы Макрынін голас 322. Словы гэтыя ўжываюцца ў вадношаньню да людзёў; у вадношаньню да жывёлы (статку, зьвярат, птушкаў), кажацца—пугаць, пужаць, перапужаць, спужнуць, пудзіць, пужлівы.

**палёгка,-і** — ulga. абяцаюць розныя палёгкі 116.

**палягчона,** прысл. — z ulgą. Яна палягчона ўздыхнула 136.

**панаехаць,-еду**. Поўнае места панаехала 227.

**парадзіха,-і** — położnica. нема ј трудна стагнала парадзіха 318.

**парадчыць,-дчу** — porządkować. Яна пачала парадчыць у скрыні 77; Ты што—скрыню парадчыш? Замуж можа гатуешся? ib.; парадчыла ў печы 67; пачаў парадчыць свој невялічкі чамадан 162; Ніна пајшла на кухню парадчыць судзьдзе 196.

**парыванньне,-я.** Не маглі ўжо яны.. распаляць адзін у вадным парываньні, імкненьні 50.

**паслугач,-а.** падпанкі з вольнымі ј нявольнымі сваjімі паслугачамі 242.

**пасталець,-ею.** Вы дужа пасталелі 366.

**патураць,-аю** — pobłażać. Гэтая авантура паслужыць добрај навукај усім, хто патурае цёмным сілам 225.

**паўдня,-я.** Андрэј з паўдня быў дома 161.

**пахіснуцца,-уся** – zawahać się. Аўторытэт Л. пахіснуўся адразу 95.

**пачухаць,-аю.** Сяляне пастаялі, пачухалі патыліцы 100.

**пачцівасьць,-і** — szacunek. глядзеў на яго ізь сьцеражліва-халоднај пачцівасьцю 390.

**пашчасьціць,-у.** Пашчасьціць у нечым 125.

**пераблытаны,-ага.** Гукі аркестру сплялісія... зь пераблытаным гоманам 24; прр. **блытаніна.**

**перавозьнік,-а.** апавяданьні старога перавозьніка Саўкі 34,

**перапалоханы,-ага.** гл. **палахлівы.**

**пехатој** — pieszo. Із станцы.. прыјшлося јсьці пехатој 390.

**піпка,-і** — fajka. закурыў піпку 294; рабілі з алешыны піпкі і курылі ў јіх сушаны на вогнішчы алехавы ліст 63.

**плесканууцца,-уся** — plusnąć się. На Дняпры плесканулася нејкая рыбіна 138.

**плојма,-ы.** Апанавалі бабы, прыцiснулі плојмај крыклівај 145; нязьлічонај плојмај усё наяжджалі на луг 148; па Дняпры плыла цэлая

плојма маленькіх дрыжачых агончыкаў 133; (зоркі) пачалі потым шукаць, нікаць плојмај па небе 321.

**плявузгаць,-аю**—bluźnić. Ці ведаеш ты сам, што плявузгаеш 76.

**пляскаць у ладкі** — oklaskiwać. Лясьніцкі.. прыгатаваўся як мага мацнеј пляскаць у ладкі, як кончыў ён гаварыць 30.

**плячук,-а**—ramię. лэпнуў Міцьку па плячуку 249.

**у покуце**.. за шумлівым сталом сядзелі госьці 281.

**поркала,-ы**—maruda? на краскі бурклiва прымошчаваліся вечныя поркалы - шчамялі 172.

**прадоньне,-я**—bezdeń, przepaść, otchłań. Вочы яе—шырокія, цёмныя — рашчыніліся чорным прадоньням і ў гэтым прадоньні застыгнуў дзікі безнадзејны спалох 159.

**пракудніца,-ы**. пачалі засьціць сонца пракудніцы - хмаркі 321.

**прасіпець,-плю**—syczeć. Стары недалужна зморшчыўся ј прасіпеў 111.

**прахон,-у**—przejście. Л.. апынуўся ў незнаёмым нејкім завулку, які праз крокаў сто раздаваўся ў пустыя прахоны гародаў 16; у прахонах паміж дрэў блiснуў чырвоны.. агонь 164; разваљнај хадою прајшоў праз адкрыты прахон 151; здавалася, што во-во на нешта наткнецца: на куст ці на пень, на дзерава якое. А натыкаліся сама тады, калі здавалася, што наперадзе чысты прахон 252.

**працяцца,-тнуся** — przejąć się. Макрына раптам працялася ..безнадзејным спалохам 176; у гэты мамэнт усе мімаволі працяліся павагаю 144; дзеяпрыкмета **працяты**—przejęty. Колькі часін ён глядзеў на яе здалеку, працяты бязьмерным жалям 170; А зь берагу плыла на ваду стројная песьня, працятая трывожным смуткам, настојнај мольбој 133; працятая нејкім хваравітым жахам яна кінулася ад вады 135; Працяты глыбокај пяшчотај, ён шаптаў ёј скрозь ціхія.. пацалункі 233.

**процьма,-ы**. Яны спусьціліся ў чорную процьму абрыва 134.

**прачутка,-і** — pogłoska. Разыјшлася па вёсцы дзіўная прачутка 91.

**прызьба,-ы**—przyźba. Л. выјшаў за јімі на вуліцу і сеў на прызьбе 96.

**прыјмы,-аў**. Пајду да Макрыны ў прыјмы 73; На конт прыјмаў пусьцілі пару.. жартаў 73.

**прыклецьце,-я**. Ён ускочыў на прыклецьце 115. На прыклецьце прыляцела з усходу густая каса барвянага сонца ibid.; прр. прыгуменак.

**прымець**—mieć możność. Каб прымеў, дык-бы зь вялікај ахвотај выкінуў яго за дзьверы 273.

**прынадна** — ponętnie. вясна разьвязала яго маладыя крылы, прынадна адкрыла прад јім ахінутыя новај цеплю прасьцягі 244.

**прысьпець,-ею** — zdarzyć się, wydarzyć się, przytrafić się. гэты пагляд раптоўна абудзіў у Л. цёплую даверлівасьць, жаданьне запраўды

ўсё расказаць, што прысьпела яму ў жыцьці, што абурыла цэлај навалај новых, дасюль нязьведаных пачуцьцёў і переражываньнеў 301.

**прытульны,-ага**—ступіў крок у раскошны прытульны пакој 212.

**пстрыкаць,-аю**—dawać szczutka. Гулка пстрыкае сябе па горле 251.

**птушанё,-яці** — pisklę. птушаняты малыя, падлёткі — тыя ўцякаюць 140.

**пуня,-і** — stodoła. падыјшла да сьцяны нејкае пуні 101.

**пярэсты,-ага** — pstry. сузіраць жыцьцё, вывучаць яго пярэстыя праявы 186; было навокала **пярэста** ј шумна 44,

**пярэсыць,-і** — przesyt. расплываецца хваляј густој па істоце адчуваньне тупој пярэсыці 79.

**пясьць,-і**. Халіма ціснуў руку аднэј толькі пясьцю свае медзьвядзёвае лапы 6.

**пяршыня,-і**. гэта яму не пяршыня 291 (= nie po raz pierwszy).

**работнік,-а**. дамагацца разам волі ј шчасьця—сабе, бацьку, маці, сялянам, работнікам 304.

**разгорнуты,-ага** — otwarty. На стале ляжаў грудок кніг, адна была разгорнута 362.

**раздарожжа,-ы**—rozdroże. Стаў прад зачараваным раздарожжам 150; прр. **падарожжа**.

**разумнік,-а**—człowiek rozsądny. Ну, скажы вось, разумнік, хто за тое, каб зямлю сялянам аддаць 76.

**разьюшаны, - ага** — rozjuszony. блісную чырвоны, дзіка разьюшаны агонь пажару 164; Л. памкнуўся ўціхамірыць, спыніць злосна-разьюшаныя хвалі 121; разьвінулі сваю крывавую жандарскую работу разьюшаныя юнкяры 154.

**расьпеwразаць, - жу** — rozpasać, rozpiąć. ён расьперазаў дзяжку 173.

**расьхінацца, - аюся** — rozchylać się. Праз крокаў сто парасьнік пачаў радзець, пачаў расьхінацца, паказуючы жоўта-шэрыя кавалкі паляны 245; ён ціха вёў яе пераз цёмную таўпу хмурых дзераваў, **расьхінаючы** вольнај рукою веццє кустоў 131; прр. **ахінуцца**.

**рэдзь,-і**. выняў у некалькі рэдзь складзеную паперку 255.

**рэјка,-і** — szyna (kolejowa). На краю пляцформы, дзе пачынаюцца рэјкі, стаяла паненка 176.

**рогат,-у** — śmiech głośny, chichot. адтуль ізноў прылятелі гукі карагодных песьняў, рогат хлапцоў 133; Хлопцы з дружным рогатам браліся ізноў за партрэт 9.

**розна** — rozmaicie. Дык вось розна людзі казалі 113.

**ројіла,-а**. 1) Паміж тугаваротнае масы салдацкіх шынэлеў, паміжројіла клункаў і торбаў вучні шмыгалі 53; акунуліся яны.. ў бурлівы вір чалавечых целаў, аплеценыројілам гвалту 228; 2) rojowisko (o ludziach): Веснавая ноч была цёплая, на вуліцахројілам біўся народ 44.

**росны,-ага**—rosisty. расьхінуліся.. росныя сенажаці 172.

**роўнядзь,-і** — równina, płasz-

czyzna. разгон зялёнае роўнядзі 149.

**руплівасьць**,-і. На яго хмурым твары густа застыгнуў быў цень трывожнај руплівасьці 146.

**Рыгор**,-а—Grzegorz. вакол Рыгора 68, Рыгора 393.

**рызьзе**,-я, і м я з б о р н а е — gałgany, łachmany. Ен яшчэ поркаўся там, зачапіўшыся за нешта свајім рызьзям 254.

**сакавіты**,-ага — soczysty. над Дняпром сакавіта пальлецца беларуская звонкая песьня 60; будуць сакавітыя песьні 127; дзесяток маладых сэрцаў — сьвежых і сакавітых 197.

**сама** — właśnie. А натыкаліся сама тады, калі здавалася, што наперадзе чысты прахон 252; прр. укр. с а м е.

**самохаць** – dobrowolnie, samochcąc. можа тој. самохаць аддасьць јім луку 96; не захацелі самохаць здавацца 132.

**сачыць**,-у — śledzić. яны адчувалі, што за јімі сочаць 133; пачаў із шчырај трывогај сачыць за вянкамі 134.

**сігаць**,-аю — kroczyć. адважна сігаў па лужынах 22; Андрэј сярдзіта ўстаў і засігаў па пакою 200; пасігаў далеј 32.

**сіўка-варонка**,-і. трупік сіўківаронкі 281.

**скалазуб**,-а 69—szyderca.

**скалануць**,-у — wstrząsnąć. Ён таму ј будзе жыватворчы, гэты агонь (рэвалюцы — П і л.), што скалане ўсё магутным вытням свајго зьністажэньня 174, разыјшлася па сяле дзіўная прачутка, каторая ўскаланула сьвядомасьць сялян 91.

**скаўзануцца**,-уся. Чырвоная касулька скаўзанулася ў яе па плячу і асьвяціла частку шчакі 78.

**скачок**,-чка. Косы чыркалі здалеку квола, прымушана, і. здавалася, што гэта нејдзе зусім блізка верашчаць скачкі 172; скачкі рэзалі паветра моцным як мага верашчаньням ibid.

**скокі**,-аў — tańce. будуць карагоды ј скокі 127; ішлі нај-заўзятшыя гульлівыя скокі 280.

**скомчыць**,-у. Дума хоча скомчыць усё, каб цягнуць тую-ж песьню 17; яна ўтупілася і, як магла, скомчыла сваю радасьць 156; Таўпа неяк нясьмела, недаверліва скомчыла свој гоман 122; Яго зацемілі—сьціхлі нејак **скомчана**, раптам 93.

**скрыгаць**,-аю — zgrzytać. Скрыгаў зубамі 257.

**смага**,-і. дасягнуць вун да таго ляску, што схаваўся ў смагу 172.

**смаляны**,-ога — smolny. стаяла мяккая цішыня, насычаная цёплым смаляным араматам 79.

**спадман**,-у—uwiedzenie. у нас ня было ніякага спадману 270.

**спакваля**, п р ы с л. неяк нехаця, спакваля загараліся абтанкаваныя знадворку панскія пакоји 164; Змардаваны народ выходзіў з залі лена, спахваля (sic!), быццам нехаця 31.

**спарнеј**, п р ы. р. с т. п р ы с л. Праца пајшла яшчэ спарнеј,

бо адны адных падганялі 146.

**спрадвеку**, прысл. перасталі ј думаць аб лепшым жыцьці.. быццам спрадвеку так Богам паложана 109.

**спрадвечны,-ага**. думкі пра.. заклятую спрадвечную нястачу 149; На сяле запелі пеўкі, пачалі сваю спрадвечную пераклічку 98; верныя спрадвечнаму абычаю 203.

**стаеньнік,-а**. Ен прыскакаў конна на свајім шалёным стаеньніку 141.

**сталы,-ага** — niemłody, podeszły. Зьбіраліся ўсе барадатыя, сталыя сяляне 68.

**station** 

**станоўка** — stanowczo. Лаяў ён із смакам—сур'ёзна, станоўка, лаяў безьперапынку 103; јідуць адзін за адным станоўка, упорыста 139.

**старавечны, - ага** — starożytny. Вось ён цяпер клыпае сабе памаленку, як старавечны, але жывучы дзядок 180.

**старац, - оца** — żebrak, ubogi. прыходзяць у тую вёску старцы 110.

**старожка** — czujnie. залёг стары Днярпо ў мярлог глыбокі і старожка затајіў у сівалюстранај гладзі свој напорнаімпэтны поступ 59.

**стаўпляцца,-яюся** — skupiać się. яшчэ балей напяў нејкую брыдкую ўпорлівасьць, што міма волі стаўплялася ўнутры 157.

**стрэлка,-і** — ważka (owad). У паветры војстра мільгалі разнакалёрныя стрэлкі 172.

**сударгава** — kurczowo, konwulsyjnie. б'ецца ў сударгах војстрае трывогі 7; заплакала цяжкім сударгавым плачам 159.

**сузіраць,-аю**. Ён ня бачыць нічога навокал, яго пагляд увабраўся некуды ў глыб, ён сузірае, ён яскрава бачыць абразы свајіх лятуценьнеў 43; сам сябе сузірае ў маўклівај цішыні 98; сузіраць жыцьцё 186.

**суладзьдзе,-я** — harmonja. Прыјшло жыцьцё, поўнае рэзкіх контрастаў і цудоўнадружных суладзьдзеў 354.

**сумецца,-еюся** — zdumieć się. Л. канчальна сумеўся. Ён ня ведаў, што далеј сказаць 275; яна яшчэ балеј сумелася 325.

**сумятлівы,-ага**. бярэцца дзень сумятлівы.. ня будзе супакою нікому 139; гналі перад сабою вялізныя ахапкі сумятлівых јіскраў 168.

**сумятня -і**. трудна было навет пазнаць, чаго больш у гэтај трывожнај сумятні, у глухім хваляваньню сялянскіх думак 153; Хацелася цяпер пајсьці куды-небудзь, каб на адзіноце развеяцца душэўную сумятню 114.

**суніца,-ы** — poziomka. Л. зьбіраў у лесе суніцы 82.

**суняцца, сујмуся** — wstrzymać się. Яна јрванулася наперад, потым быццам сунялася 167.

**супакојіць,-ю** — uspokojić. Разважаньні.. супакојілі троху 257.

**сустрэцца,-нуся** — spotkać się. сустрэліся 30.

**сустрэча,-ы** — spotkanie. ад гэтае сустрэчы асталося ў Л. пачуцьцё сымпатыјі да Халімы 53.

**сухарлявы, - ага** — chuderlawy. расло некалькі сухарлявых дзераўцаў 286; было поўна комізму ў раструшанај су-

харлява-лёгенькај хвігурцы старога пана 165.

**суцэльны,-ага** — jednolity. суцэльны куст 59; хвігура Андрэева разьлілася ў суцэльную—на ўсю хату—вялікую пляму 163.

**суцешыць,-у**, мнагар тр. **суцяшаць,-аю** — pocieszyć, pocieszać. здолеў-бы яе суцешыць 136; Лясьніцкі неяк яе суцяшаў 64; суцяшаў наіўна ласкавымі словамі 219.

**схон,-у**—pochyłość, spadek. сунуўся далеј па схону, гатовы кожную часіну скаціцца ў ручај 335; ўзгор'е.. было пересечана такімі вялізарнымі крутымі разлогамі, схоны якіх абрасьлі 330.

**сьпяшацца,-аюся** — śpieszyć się. Ен сьпяшаецца 129; Лясьніцкі сьпяшаўся 128.

**сьцеражліва**, прысл. Макрына сьцеражліва азірнулася наўкола 157.

**сьцеражлівасьць,-і**. Ён зь нејкај сьмешнај сьцеражлівасьцю зірнуў на дзьверы 190.

**сьціплы,-ага**. (хвоji) стаяць — прыгожыя, сьціплыя — застыглі ў сьвятој нярухомасьці 80; лесам ішлі ціхім, **сьціпла** прытоеным 99.

**тапельнік,-а** — topielec. вылазяць тапельнікі з рэчкі 66.

**тачыцца,-уся** — toczyć się. тачыцца срэбным цурочкам нејкі няведамы жаль 368; дзе яшчэ не прарваўся агонь, дзе ён тачыўся яшчэ ў сярэдзіне, употајку, там.. лез у неба чорны дым 168.

**тож**—też. Дома яго тож адразу не пазналі 392.

**трудна**, прысл. нема ј трудна —стагнала парадзіха 318.

**трухляціна,-ы**—zgnilizna. нёсься агідны смурод трухляціны 181.

**трушком** — truchtem. Халіма.. хацеў уцячы ад Лясьніцкага або падражніцца, прымусіць прабегчы трушком 20.

**трызьненьне,-я**. могуць паўстаць у душы.. цені наіўных дзіцячых трызьненьнеў 60; была адна нејкая шырокая дрэма, было гарачае салодкае трызьненьне 78.

**тупат,-у** — tętęt. пачулі глухі перабор конскага тупату 99.

**ўбіраць,-аю** *)—wsiąkać. Дняпро.. моўчкі ўбіраў у сваё сьцюдзёнае ўлоньне 171.

**удвая**—dwa razy, w dwojnasób. Ведама, баба, калі лапоча языком, дык удвая больш наробіць 145.

**ўдвор** — do domu. сын зрабіў надзвычајна добра, прыехаўшы ўдвор 392.

**удумліва** — zagłębiony w sobie, zastanawiający się. удумліва ј строга заміргала свајімі вочкамі 323. Слова відавочна створана, каб перадаць рас. „вдумчиво".

**уедліва**, прысл. вочы.. глядзелі пільна ј уедліва 89.

**узьнятасьць,-і**—nastrój podniesiony. Ен быў повен цяпер дзівоснај узьнятасьці 88.

**узьняты,-ага** — podniesiony. У мамэнт зьгінуў яго радасна-ўзьняты настрој 90; У тој вечар на вёсцы доўга ня

*) словы, што пачынаюцца на ў і у, пішу ў слоўніку разам, бо гэтыя гукі ў вадным і тым-жа слове ў беларускај мове мяняюцца ў залежнасьці ад палажэньня слова ў казаньню, значыцца замест ў бывае у і наадварот. Тут пішу такую хворму, якая вынікла ў прыводжаным прыкладзе *М. П.*

спалі — не даваў спаць узьняты настрој 147.

**уклейка,-і.** вясёлая жвавая рыбка — уклейкі, ялцы 256.

**ўлегцы.** прысл.—bez ładunku. інШЫЯ выбіраліся ўлегцы 350.

**ўлетку**— latem. вырастае ўлетку трава 59.

**ўлоньне,-я** — łono. расьцілаў сваё люстранае ўлоньне сівы Дняпро 267; бяжыць куды-небудзь на ўлоньне прыроды 214; вылучыла прырода Л. із свајго раскошнага ўлоньня 321.

**упадабаць,-аю** (каго). стары пан упадабаў тую немцаву жонку 113.

**ўпотајку**—skrycie, w tajemnicy. толькі ўпотајку, ня хоча пан, каб ведалі, што яна жывая 113.

**ўпяршыню** — po raz pierwszy. Ці-ж мне ў пяршыню? 106; І разам з тым упяршыню паўстала ў сваёј поўнај значнасьці пытаньне 257; прр. **пяршыня.**

**упяць, упну** — utkwić. Л. ўпяў гарачы пагляд у паненку 101; Карла тупа ўпяў у яго свој хмуры пагляд 142; упяла ў халодна-бялясую пляму вакна нярухомы пагляд 193; упяў пагляд у халаднаваты блакіт 184; мнгр. **упінаць-аю.** ён упінае зрок у вакно 57.

**ўсе чыста** — zupełnie wszyscy. будуць на яго ўсе чыста злавацца 94.

**усё чыста** — zupełnie wszystko. Я ёј усё чыста засею 73; у нутры бурліць усё чыста 7.

**усіхны,-ага** — wszystek. ён так заваладаў усіхным настроям 124; пачаў цікавую гутарку, якая адцягнула ўсіхную ўвагу 202; загараўся ўва ўсіхных вачох агонь 335.

**ускльычыцца,-уся.** Лясьніцкі раптам схапянуўся, ускльычыўся 13; дзеяпрыкмета **ўскльычаны**—rozczochrany. Дзед вытыркнуў сваю ўскльычаную галаву 171.

**ўсхваляваны,-ага** — wzburzony, wzruszony. слухалі.. рухі яго ўсхваляванага голасу 302.

**ўцішку**—pocichu. Можа таксама плача ўцішку? 256.

**ўцяцца, утнуся**—odciąć się. Мужчыны падсьміхаваліся над бабамі, над јіх дробным, няспорным завіханьням, тыя стараліся ўцяцца, каб мужчын перагнаць, каб асароміць јіх, пасьміяцца над јімі 146.

**ушчарэпіцца,-плюся.** нашы паганскія багі не захацелі самохаць здавацца, ушчарэпіліся за свае боскія пасады і пастанавілі прыняць бој 132.

**хадак,-а.** Расказаваў памалу, расьцяжліва, як звычајна расказуюць звыклыя да далёкіх дарог хадакі 173; тут маем тој-жа суфікс, што ў „яздак“.

**хада,-ы** — chód. Андрэј падыјшоў да яго сваёј плаўнај хадою 17; пасігаў далеј сваёј нязграбнај хадою 32; З заходу цяжкој зялезнај хадою сунулася нямецкая армія 306.

**Хадора,-ы**—Teodora. ў бабылкі Хадоры 60.

**хаплівы,-ага** — gwałtowny, porywczy. у хаплівај пасьпешнасьці јрвалі апошнія краскі свајго панаваньня 306; раптоўна зьмяніўшы тон, загаварыла хапліва, гарача,

быццам сьпяшалася некуды 345.

**характво,-а** — piękność. Ці мы чуем, колькі характва гордага, высокага характва ў гэтых словах... 27; Плыло.. сьпелае характво 78.

**хвалісты,-ага** — falisty. разьліваецца ў ваччу хвалістае 245.

**хваляваньне,-я** — oburzenie. загараўся ўва ўсіхных вачох агонь ціхага хваляваньня 335.

**хваравіты,-ага**—chorobliwy. Было нешта хваравітае, ліхаманкавае ў гэтај хадзьбе 79; гучэлі, як хваравіты ёкат ахопленага перадсьмяротнај агоніяј зьвера 221.

**хістаць,-аю.** Яно (жыцьцё — Піл.) хістала яго 47.

**хмарна**—chmurno. Было хмарна, але дажджу ня было 98.

**Хомка,-і** — зьмянш. ад Хама. Як тој Хомка няверны 304.

**хоця-ня-хоця**—chcąc nie chcąc. Хоця-ня-хоця, а прыјдзецца неяк ёј перадаць 84; **каму хоця**—komu chcąc. лес раздаюць каму хоця 237; **куды хоця** — dokąd chcąc. можа хадзіць куды хоця 245; **што хоця.** гатоў-быў зрабіць што хоця 219; **хто хоця**—pierwszy lepszy. езьдзіць па карку ў яго хто толькі хоця 70.

**цемра,-ы.** Вось ён упінае зрок у вакно, у бяздонную цемру 57.

**цепль,-і** — ciepło. патыхнула смалістај, пахучај цеплю 173; Вуліцы места, поўныя сонца і араматнај веснавој цеплі, пярэсьціліся гаваркој таўпој 263; вясна.. прынадна адкрыла прад јім ахінутыя новај цеплю прасьцягі 244.

**цікуючы,-ага** — badawczy. Л... сустрэў звычајны, хітравата-цікуючы блеск яе.. вачоў 14; Напару ён няўпрыцям кідаў цікуючы пагляд на Ніну 191.

**ціўканьне,-я** — świergot. жвавае ціўканьне на страсе вераб'-ёў 115.

**цішыня,-і**—cisza. стаяла мяккая цішыня 79; агарнула сьветлая цішыня 173.

**цурочак,-чка** — зьмянш. ад цурок—potok. гэты недавер.. уліваўся сьцюдзёным цурочкам у вагонь јіхняе блізіні 194; точыцца срэбным цурочкам.. жаль 368.

**цыркун,-а** — świerszcz. цыркун у запеччы 163.

**цяпло,-а** - ogień. раскладалі цяпло 63.

**чамусьці.** Яна чамусьці прымушае лясьніцкага недаверліва настарожавацца 28; думаў чамусьці аб тым 181.

**чапаць,-аю** — zagabać. Андрэј балеј яго не чапаў 49.

**часінка,-і**—chwilka. часінку выбрала, каб навесьці парадак 77.

**чорнавокі,-ага.** Чорнавокая 213. Бяссумлеву вымаўляецца — чарнавокая.

**чутка,-і**—pogłoska. Дзед пачаў апавядаць пра справу з лукој, пра дзіўную, нечаканую чутку 14.

**чутна,** прысл.—słychać. нічога ня чутна было 289.

**чымся** — niż. балеј выразна, чымся ранеј 238.

**чысты,-ага** — 1) czysty, 2) zupełny. Лясьніцкі дык чысты дзівак 304.

**шаваліцца,-юся** — poruszać się. расьхінуліся.. сенажаці, на каторых ужо памалу шава

ліліся.. касцы 172; Шаволіцца, лезе 245.

**шкумацьце,-я**, зборн.—szmaty. гаворыць у вочы злосна абуранај грамадзе, каторая можа гатова разарваць яго на шкумацьце 152.

**шмотка,-і**. — гэта-б паказала, што ў мяне няма ніякага асабістага гонару, што я нејкая шмотка — і балеј нічога 272.

**шолах,-у**. баяцца парушыць цішу навет ледзь чутным шолахам 70.

**шорахна**, прысл. Лясьн. робіцца троху шорахна 129.

**што хоця**. Народ такі, што ў злосьці зробіць што хоця 151; прр. **хоця-ня-хоця**.

**штых,-а** 305—bagnet.

**шчамель,-я** — trzmiel. на красні бурkліва прымошчаваліся вечныя поркалы - шчамялі 172; горш за ўсіх шчамялём 140.

**шчэнь,-і**—szczenię. знајшлі тую шчэнь на паравіку 44.

**шчубоўкнуць, - v.** шчубоўкне ў ваду 63.

**шчымець,-млю.** Дзеля таго ј шчыміць у такое надвор'е чалавечае сэрца ціхім смуткам 107.

**шчымлівы,-ага**. шчымліва - радасны 131.

**шчытны,-ага**—szczelny, krzepki. Вакол яго.. вырасла шчытнае, роўнае кола.. сялян 120; Андрэј. сам такі шчытны, крамяны 17; паўзьлі па балоце, пасуваліся ў глыб, усё **шчытнеј** ды шчытнеј сьціскалі бандытаў 375.

**юрлівы,-ага** — namiętny. Яна была троху п'янаватая, а дзеля таго. пачала шчыра адказаваць на пацалункі — вусны яе сталі мяккія ј гарачыя, а ўваччу зајскрыўся юрлівы агончык 28?.

**яздак,-а**—jeździec. Ён ужо быў сьмелым ездаком 101; кожны ўдалы рух ездакоў сустракалі спачувальнымі ўскрыкамі 144.

**як мага**. Лясьніцкі наўмысьля нарыхтаваўся як мага мацнеј пляскаць у ладкі 30; скачкі рэзалі паветра моцным — як мага — верашчаньням 172; просяць чамусьці як мага хутчэј прыехаць 226.

**як хоця**. Можна яе караціць, даўжыць як хоця 182, гл **хоця-ня-хоця**.

**ялец, ялца.** шпацыруюць поўныя напышлівае грацы маладыя ялцы ј галавенчыкі 53

У канцы трэба зацеміць, што ў слоўнічку прыведзеныя ня ўсі значэньні кожнага слова, але толькі знајдзеныя ў разгляданај кнізе, напару адно часьць значэньнеў слова, з каторымі яно сустрэлася ў „Сьцежках-дарожках".

**М. Піліпёнак.**

# Крытыкі ј рэфэраты.

*Б. Тарашкевіч*: Беларуская граматыка для школ. Выданьне пятае перарobленае і пашыранае. Вільня. 1929 г., бал. 132 + IV.

(Працяг).

## Фонэтыка ј правапіс.

Буду јзноў разглядаць у тым парадку, у якім падае аўтар; дзеля таго-ж разглядаю фонэтыку ј правапіс разам.

На бал. 48 чытаем: „Часамі *ъ* паказуе, што зычны ня трэба зьліваць з чародным галосным, бо паміж імі чуваць й: *зьявіцца, зъесьці* і г. д. (выгаварваецца: *зьйавіцца, зьйесьці*)". Пры такім хвармулаваньню можна падумаць, што сугук перад таковым *ь* можа напару не вымаўляцца мякка, хоць так ня бывае.

Толькі ўплывам на аўтара недасканальнае абэцэды можна выясьніць такое казаньне: „Што чуваць посьле зычных *р, ж, дж, ш, ч* у словах: бура, гавару..?", бо тут самыя зычныя чуваць цьвёрда, а ня ё якаясь цьвярдзіня па jix. Тое самое адносіцца да — „Посьле іх чуваць не *і*, а заўсёды *ы*: рыба, рысунак...", хоць даўнеј *і* ј *ы* былі асобнымі гукамі ј у беларускај мове.

У § 54 чытаем: „Літары *о, е, э* пішуцца толькі пад націскам", але на некалькі радкоў ніжэј у тым-жа парагрoфе знаходзім — „У далейшых складох можа пісацца *е*, калі наступны склад мае *а* або *я*, напр.: верабей, цецярук..." і „У складох посьле націску літара *е* пішацца даволі часта". Гэта ўсё аўтарская няўважнасьць, што так вельмі адбілася на кніжцы.

Аб аканьню ў скланеньню назоўных јімёнаў была ў № 3-4 „Род. Мовы" асобная стацьця д-ра П. Вајцюлевіча, з каторај я чыста згаджаюся.

У § 74 да — „Правіла аб аканьні (яканьні) у мягкіх складох куды больш труднае, бо там не заўсёды *е* замяняецца на *я*" — трэ' было дадаць „на пісьме", бо ў гутарцы ненацісьненае *е* заўсёды пераходзе ў *а* (*я*).

Проці першае рэдакцы граматыкі вельмі добрая гэт'-кая зьмена, зробленая ў рэдакцы разгляданае: „Калі ў слове націск на прыстаўцы (найчасьцей *вы*-), то „яканьне" можна азначаць так, як быццам слова стаіць бяз прыстаўкі: ляцець — выляцець, нясу — вынясу, лезьці — вылезьці..." (бал. 112). Гэтую зьмену трэба прывітаць, бо яна ўводзе некаторую аднастајнасьць. Пажадана аднак было-б замест „можна" бачыць тут „трэба".

Але аргумэнтаца гэтае зьмены неспадзяваная. Аўтар кажа: „*ё* замяняецца на *я*“, дык дзеля таго, значыцца, пры *нёс* маем *выняс*. Але ў таковых словах, як *выняс* і мноства да іх падобных нямашака жаднага этымолёгічнага *ё*, а ёсьць *е*, каторае не пад націскам пераходзе ў *я*, а пад націскам па мяккіх сугуках перад цьвярдымі — у *ё*.

На бал. 57 аўтар кажа: „У далејшых складох (гэта значыцца перад націскам, але ня ў першым складзе ад націску — *Б. Ск.*) можа пісацца *е*, калі наступны склад мае *а* або *я*, напр.: вер*а*бей, цец*я*рук...“ Няго-ж аўтар дапушчае ў такім прыпадку пісаньне ј *я*? Прынамся сам ён із свајго „можа“ не карыстае. Мы зычылі-б тут знајсьці „мае пісацца“.

Аб пераходзе ў *ј* злуча *і* альбо *і-* пачынаючага слова добра напісаў М. Піліпёнак ў № 3-4 „Род. Мовы“ (бал. 83-85). Гэтта адно зацемлю крышку. Б. Тарашкевіч кажа: „Перад злучэньнем некаторых зычных *і* најчасьцеј не скарачаецца, калі там труднеј было-б выгаварыць *й*: спусьцілася імгла, праела іржа, на ільняным полі, на іржышча, на ігрышча...*), хоць можа быць і так: спусьцілася ймгла і г. д.“ (бал. 116). То-ж ба то, што „можа быць“ і гэтак заўсёды бывае.

Затое аўтар граматыкі добра зацеміў, што „У вершах *у* і *і* дзеля захаваньня разьмеру могуць не скарачацца“ і „Нельга скарачаць дзеля захаваньня разьмеру *у* і *і* пасьля зычнага, бо такое злучэньне трудна (я-бы сказаў — немагчыма — *Б. Ск.*) выгаварыць“ (ibid.).

Аб „прыдыханьню“ была ў № 3-4 „Род. Мовы“ стацьця д-ра Я. Станкевіча пад назовам „Прыстаўное *v* у беларускај мове“, да каторае я ня маю чаго дадаць.

Што да *ы*, *і* з даўнејшага *ъ*, *ь* па *р*, *л*, *в* (склады *ры-*, *лы-*, *лі-*, *ві-*), аўтар зацеміў: „Склады *ро*, *ло*, *ле* стаяць пад націскам, склады *ры*, *лы*, *лі* — не пад націскам“ (§ 84). Тымчасам гэта не заўсёды так. Маем шмат словаў, дзе менаванае *-ы-*, *-і-* націсьненае. Вось крыху прыкладаў: п р ы с а к Сл. Нас. 536, прысачак ib., усадзіў ляпу ў прысак Сакол. пав. Федар. I, 27, з *pръsъкъ (прр. чэс. paprsek, рас. просак); п л ы т Сл. Нас. 419, плытнік ib., плытнікаў Сл. Ласт. 698, 304, наплытны ib. 352, плыт „Чырвоны дудар“ 34, 1924 г. Менск; к р ы ш Сл. Нас. 256, перакрыш ib. 404, крышаны ib. 256; к л ы ч а н к а Сл. Нас. 237, клычаньне ib., клычаны ib., клычыць ib., склычыць ib., паклычыць ib., усклычыць ib. 71, яго падучка клычыць ib. 264, склычылась Масальскі ј Жыздрынскі пав., Шахматаў „курс“ 156, клычка, Бранскі пав., ib. 330 з *кlък—(прр. рас. к л о ч и т ь);

*) абмылка, бо ў гэтым слове націск на *і* — *Б. Ск.*

няхрышчаны Навагр. п. Е. Кліх 191, перахрысьціцца Рам. V. 40; прыгрымнуць Сл. Нас. 500, Бунтарскае грымнула слова „Безназоўнае“, бал. 8, 1925 г., Менск, грымнуцца Сл. Ласт. 627, грымнуць ib. 138, паскрыгаць Сл. Нас. 479, скрыгаць Сл. Ласт. 656, заскрыгаць ib. 201, зубамі адскрыгаць ib. 434, прр. рас. скрежетъ; пакрымзаць ib. 524; ледзь дабрыў ib. 171; брынкаць—1) бренчать на какомъ-либо струнномъ инструментѣ. Грај, а ня брынкај. 2) Играть пальцемъ по губамъ свойственно дѣтямъ. Досіць брынкаць, а то губы паб‘еш Сл. Нас. 34; брынкнуць ib., брынк-у—звукъ отъ струннаго інструмента. Адкульсь брынк чутны ib., брынканьне ib., брынды біць — баклуши бить; букв. играя пальцемъ по губамъ производить брынк-брынк ib., брындзікі,-аў—бренчаніе на цымбалахъ или на подобномъ инструментѣ. *Пачуў брындзікі і пабег* ib., брынды — бродяжничество. *Брындамі зајмаецца* ib., брында,-ы — бродяга, бездѣльникъ, шатающійся безъ дѣла. *Нејкага брынду ўзяў к сабе* ib., брындаць ib,; дрыгнуць Сл. Нас; 147, дрыжык ib., дрыжка ib., уздрыгі ib. 53, уздрыжка ib., здрыжнік 3. Верас, Батанічны слоўнік; крымсаць Сл. Ласт. 823, крымсаць па хрыбце „Крывіч“ № 7,16, прыр. рас. *кромсать*; дзеўку чарнабрыўку Быхаў. п. Рам. VIII, 490, чарнабрыва Навагр. п. Е. Кліч, 177; глымзаць, запісаў я ў Краўској вол., Ашм. пав.—скубсьці нізкую траву, прр. рас. *гломзать*; трысьціць Сл. Нас. 640, патрысьціць ib., трышчаньне ib., стрысьціць ib. 618, стрышчаны ib., патрышчаны ib. 485, прр. рас. *трость, тростить*; праглынуты Сл. Нас. 521, праглычаны ib., глытніца Сл. Ласт. 176, з *glъt — (прр. рас. *глотка, глотать*); хлыснуць Сл. Нас., 680, з *chlьst— (прр. рас. *хлеснуть, хлестать*).

Усі пералічаныя беларускія прыклады маюць націск на *-ры- -лы-* , *-лі-*. Прыкладаў ня мала, хоць јімі ня ўвесь матар‘ял вычарпаны. Дык няго-ж можна просьле гэтага казаць, што склады *ры-*, *лы-*, *лі-* (з *ръ-* і г. д.) ё толькі не пад націскам?!

Апрача таго Б. Тарашкевіч не паказуе, што маем і склады *-ві-*, а ня *-ве-* з *-вь-* паміж сугукамі. Прыкл.: зьвінець, цьвісьці, мярцьвіца.

Няма ўжо дзіва, калі не ўспамінае, што ј *мы-* маем намесцу даўнејшага *мь-* (*мыгла*).

Аб складох *-ір-*, *-ыр-* з даўнејшага *ṛ* складатворнага Б. Тарашкевіч зусім ня ўспомнеў, а тымчасам словаў із таковым складам ё ня мала. Вось некаторыя зь јіх: *стырч* Сл. Ласт. 586, рас. сторчь, стырчком ib., з боку саломіна стырчыць Сяньскі пав., Рам. I—3,30, устыркні мяне ў сьцяну Гом. п., Рам. I—3, 61, тырчаць Рагач. п., Рам.

I—3, 27, вытыркнула хвост із нары Сяньскі п., Рам. I—3, 26, галаву вытыркнуў Сян. п., Рам. I—3, 5, стырчыць Гом. п., Рам. VI, 211, Вытыркаць Сл. Нас. 99, вытыркацца ib., вытыркнуць,-ца ib., растыркаць ib. 560, растырканы ib., растырка ib. 559; *цыркаць* Сл. Нас. 692, пацыркаць ib., уцыркаць ib., цырканы ib., цырканьне ib.; *ушчырк*, мерыць ушчырк. Салдаты ўшчырк стаяць, адзін пад адзін Сл. Нас. 75, чыркаць ib. 699, пачыркаць ib., чыркнуць ib., чыркні ib., чыркануць ib., чыркаць Сл. Ласт. 288; *кырканьне* Сл. Нас. 263, кыркаць ib., закыркаць ib., кыркнуць ib.; *міргаць* Сл. Ласт. 333, мірганьне ib., міргліі ib., міргун ib., міргула ib., міргуся ib., міргасьлепіца ib., мірганадніца ib., міргае Дрыс. пав., Рам. VIII, 195, прр. рас. „моргать“; *пырхаць* Сл. Нас. 541, пырхнуць ib,, пырханьне ib., пырхаць Сл. Ласт. 513, пырхнуць ib., пырхун ib., Конь усё пырхае Ваўк. п., Федар. II, 260, прыр. рас. „порхать“; *вытыргаць* Сл. Ласт. 238, вытыргнуць ib., вытырг ib., адтыргаць ib., 427, я яму руку падаў, а ён сваю адтыргнуў ib., адтыргнуты ib., 436, адтыржны ib., прр. да *торг*; *пырскаць*, Сл. Нас. 541, пырскнуць і пырснуць ib., *пырскаць ад сьмеху* ib., пырсканьне ib., запырскаць ib. 182, пырскаць Сл. Ласт. 576, пырсканьне ib., пырскаўка ib., пыршніца ib. 584, пыршнік ib., прр. рас. *порскать*; *мырканьне* — „напѣваніе сквозь зубы“ Сл. Нас. 295, мыркаць ib., мыркнуць ib., мыркун ib.; *гыркнуць* Сл. Нас. 126, гыркаць ib., загыркаць ib., гырканьне ib., А за сталом маўчкі сядзелі, там хлопцы гыркацца ня сьмелі „Новая Зямля“ Я. Кол.; *помірс* Сл. Ласт. 720, помірсна ib., прр. ч. *mrskati*; *чырванец* Сл. Нас. 699, чырван ib., лес у чырвань апрануўся, „Нов. Зямля“, чырвонаj рожаj Сян. п., Рам. VIII, 346, чырвана Магіл. п., Белар. мат. № 4; *чырствы* Сл. Нас. 699, чырственькі ib., чырствець ib., чырствасьць ib., значыць – „сьвежы“ і г. д.

Казаць бяз жаднае засьцярогі, што „звонкія зычныя на канцы слова страцілі сваю звонкасьць“, нельга. У некаторых мясцовасьцях ды, здаецца, большых, чымся дагэтуль думалі, гэтая звонкасьць астаецца.

Зьмякчэньне сугукаў. Як і ў першаj рэдакцы свае граматыкі, аўтар не прызнае для літаратурнае мовы зьмякчэньня ў прыстаўках *з* перад мяккімі *к*, *г*, *х*; а тымчасам перад *к* на ўсім прасторы беларускае народнае мовы маем зьмякчэньне ў прыстаўках *з* (ськінуць, раськінуць, уськінуць, ськіваваць, ськеміць), а перад *г*, *х* ў вялікаj часьці народнае мовы. Гэтую зьяву, як згодную з агульнаj тэндэнцаj беларускае мовы да зьмякчэньня *з*, *с* перад мяккімі сугукамі, канечне трэба захаваць у мове літаратурнаj.

Зьмякчэньне ў прыjмёнах *з* перад *j* і мяккімі сугукамі наступнога слова аўтар для вымовы

прызнае, але ня хоча гэтае асаблівасьці абазначаць на пісьме. Якая раца? За абазначэньням менаванае мякчыні на пісьме (пісаньням *ь* па *з—зь јім*, *зь лесу*, *безь мяне*, *безь цябе* і пад.) прамаўляе: 1) што зьмякчэньне запраўды ў вымове ё, 2) што ў слове мякчыню кожнага мяккога *з*, *с* мы абазначаем. Апрача таго, јіншыя славянскія мовы ня знаюць зьмякчэньня ў прыјмёнах *з*, *с*. Калі мы менаванае мякчыні ня будзем абазначаць на пісьме, дык пры нябыцьцю ў нас беларускіх школаў, чытаючыя Беларусы перастануць гэтае *з* зьмякчаць, јіншымі словамі—пачне гэтая беларуская асаблівасьць сьцірацца. Не абазначаць на пісьме мякчыні *з* ў прыјмёнах—значыцьісьці да ўтраты беларускај мовај яе індывідуальнасьці.

Аўтар ня хоча нам сказаць, чаму гэта, абазначаючы мякчыню ўсіх јіншых зьмякчоных падвојных сугукаў, ён у новај рэдакцы свае граматыкі не абазначае мякчыні падвојнага *дз* ды навет пераходу *д* ў *дӡ* (замест *судзьдзя* піша—суд*дзя* § 89). Хіба-ж аб зьмякчэньню тут *д* ў *дз* ён не сумляваецца? Калі маем зьмякчэньні *д* ў *дз* ў таковых прыпадках, як — *дзьябал*, калі вялікшая часьць беларускае мовы знае пераход *д* ў *дз* перад мяккім *н* (*сягодзьня*, *абедзьня* і пад.), калі ў некаторых мясцовасьцех *д* перад *ј* навет у прыстаўках зьмякчаецца ў *дз* (*адзьехаць*), дык і пагатове спадзяёмся зьмякчэньня яго ў мяккіх здвоеных сугуках; прытым-жа вымову *судзьдзя* і пад. заўсюды чуем. Аўтар аднак дапушчае ј пісаньне двух *дӡьдӡ* ў таковых прыпадках (*судӡьдӡя*) дыј сам навет у граматыцы напару так піша.

Незразумела такжа, чаму аўтар знаходзіць магчымым побач зь *льлю*, *льлеш* і г. д. ужываць *лію*, *ліеш* і г. д. (122)?

У граматыцы прапушчана асаблівасьць ацьвярдзеньня *ль* перад *ц* у назоўных јімёнах зьмяншальных (*колца*, *салца*, *палцы*, *стралцы*), перад суфіксам—ство (*бабылства*, *самахвалства*), ды перад суфіксам — *ък-а* жаноцкіх јімёнаў незьмяншальных (*вучыцелка*, *прыяцелка*, *круцелка*, *зашпілка*, *бабылка*).

Гл. аб гэтај асаблівасьці стацьцю Я. Станкевіча „Дыспаляталізацаl у беларускај мове". Працы клясы філёлёгіі, т. 1, бал. 242 ды „Папраўку" ягоную ў № 3—4 „Роднае мовы", бал. 75.

У § 95 аўтар кажа „Трэба заўважыць, што формы *нашоў*, *знашоў*, *зашоў*, *прышоў*, *вышаў* ужываюцца замест *найшоў*, *зайшоў* і г. д.". Няма ведама, што хоча аўтар гэтым сказаць. Ведама, што паколькі менаваныя хвормы бязь *ј* ужываюцца, дык ужываюцца яны замест хвормаў зь *ј* (*пајшоў* і пад.), але хвормы бязь *ј* ужываюцца адно ў не-

каторых мясцовасьцех і ўводзіць jіх у літаратурную мову зусім няма патрэбы. Апрача таго зацемлю, што хвормы *зашоў, дашоў* і *перашоў* ня ўжываюцца навет на абмежанаj мясцовасьці.

-ъ прыстаўкі +*jъ*-. У § 95 аўтар кажа „Калі прадлог канчаецца на *зычны*, то *і* (*як* і *заўсёды*) посьле цьвёрдага зычнага выгаварваецца як *ы*: *адысьці, падысьці, зысьці; адышоў, падышоў, зышоў; адыду, падыду, зыду*"... З такім выкладам згадзіцца нельга. Калі-б так было, дык усі славянскія мовы ў менаваных прыкладах мелі-б хворму аднолькавую з моваю беларускаj, а тымчасам ё начаj. Прыкл: *пол.*: odejdę, zejdę, podejdę, zejść, podejść, podeszedł поб. з podszedł; *рас.*: отойду, сойду, подойду, сойти, сошелъ; *чэс.*: odejdu, sejdu, podejdu, sejti, odejiti, sešel, podešel; *укр.*: зійду, одійду з — зойду, одойду; *срб.-харв.* sagjem, otidem; *славен.* odidem; *баўг.* отиде.

У мове праславянскаj у цяперашнім часе былі хвормы: sъjьdǪ, podъjьdǪ, podъjьmǪ і г. д.

Калі гэтыя праславянскія хвормы прыраўнуем да адпаведных хвормаў польскіх, расеjскіх, чэскіх, украjінскіх і сэрбахарвацкіх, дык пабачым, што ў гэтых мовах ъ перад *j* перайшоў у тыj самы самагук, каторы ў jіх ё на месцу кожнага jіншага моцнага ъ (із *sъпъ маем: *пол.* sen, *р.* сонъ, *ч.* sen, *укр.* сон, *серб.-харв.* сан). У мове беларускаj і некаторых jіншых мовах славянскіх маем таксама правільную замену ъ самагукам, але таковым, які ўзьнік на месцу ъ у канчатках складзеных прыкметаў перад *j*. Як з *novъjь узьнікла *новыj*, так із *podъjьdǪ—*падыjду* і пад.

Узьніклы гэт'кім спосабам самагук на месцу ъ перад *j* у цяперашнім часе перайшоў пасьлеj па аналёгіjі да неазначанага ладу і мінулага часу.

Зацемлю яшчэ, што хвормы *адыду, падыду* (бязь *j*) блізу што нідзе ня ўжываюцца ў беларускаj мове; маем усюды адыjду (зь *j*) і г. д. У вялізарнаj частцы блр. мовы маем такжа *j* у мінулым часе і неазначаным ладзе тых-жа словаў—*падыjшоў, падыjсьці* і г. д.

Аўтар ня ўспомнеў і ў новаj рэдакцы граматыкі аб прыстаўным *і* да прыjмені *з*. Гэт'кае прыстаўное *і* перад *з* бывае, калі наступное слова пачынаецца сычачымі s, z, ś, ź, š, ž (*із сабоj, ізь зямлі, із сынам, із жывымі*) альбо папярэдняе слова канчаецца на сугук (*чалавек ізь пяску ствароны*).

Аб вымове j правапісе чужых словаў у № 1—2 „Род. Мовы" надрукавана стацыця д-ра Я. Станкевіча, да каторае адсылаю, а гэтта адно крышку закрану.

Добра зрабіў Б. Тарашкевіч, што ў новаj рэдакцы граматыкі паводле *літара* і згодна з вымоваj уводзе пісань-

не *літаратура* (з *а* па *т*), а ня так, як ранеј—*літэратура* (з *э* па *т*) § 97.

Аўтар кажа: „Чужаземнае *l* (сярэдняе) перадаецца мягкім *ль*, як у словах *лямпа, пляц* .. або цьвёрдым *л*, як у словах — капітал, ідэал, інтэграл, адмірал, артыкул, матэрыял, пратакол, формула, канікулы, бібула, трыбунал і інш" ibid.

Вось-жа ад Б. Тарашкевіча не даведуемся, калі ўжываці *ль* мяккое, а калі *л* цьвярдое, бо ўсіх словаў ён ня прыводзе і прывесьці ўсіх іїх немагчыма. Затое цікаўна адцеміць, што ў прыведзеных Б. Тарашкевічам прыкладах цьвярдое *л* знаходзім на канцы іімёнаў мускіх. З трох прыкладаў зь цьвярдым *л* „канікулы" — маскалізм, „формула" таксама маскалізм альбо палёнізм, „бібула" *) — палёнізм, пабеларуску—*бібла*. Гэта чыста адпавядае ўстаноўленаму Др. Я. Станкевічам у вышменаванај стацьці правілу, што ў васнове чужога слова маем у беларускај мове вылучна *ль* мяккое, а на канцы цьвярдое *л* у іімёнаў мускіх і мяккое ў іімёнаў жаноцкіх (№ 1-2 „Род. Мовы" бал. 25) **).

Унізе на бал. 126 чытаем: „Не зьмягчаюцца звычайна й зычныя *з, с, ц*: *асыстэнт, магазын, пазыцыя, коопэрацыя* і г. д., але *фантазія, поэзія, аказія, Азія, Сібір* і інш".

Наўперад у гэтым „правіле" зусім без патрэбы апынулася *ц*: старое (праславянскае) *ц* і ў сваіх словах беларускае мовы ніколі ня бывае мяккім, бо даўно ацьвярдзела, дык чаму-ж бы яно напару зьмякчалася ў словах чужых.

Слова „Сібір" узядзена з расејскае мовы, а пэўне-ж на фонэтыку чужых с л а в я н с к і х словаў беларуская мова начај рэагуе, чымся на гукі словаў неславянскіх.

Што да ііншых прыкладаў, дык прыклады із *з, с* цьвярдым чыста адпавядаюць правілу, устаноўленаму Др. Я. Станкевічам (№ 1-2 „Род. Мовы", бал. 23 ўнізе), а прыклады зь мяккім *з* паводле правіла Станкевічавага (ibid. 22) павінны пісацца ј вымаўляцца гэтак: *фантазя, поэзя* (чытај: *паэзя*), *аказя, Азя*. Як бачым, хоць несьвядома, але Б. Тарашкевіч адбіў тут народную вымову, праўда толькі часткава, што датыча вымовы *з, с*, а ня хвормы канчаткаў.

**Брачыслаў Скарыніч.**

(*Канчатак будзе*).

*) гэта ня значыць, каб у расејскај альбо ў польскај мове менаваныя словы былі сваімі.

**) як паказуе тое-ж слова „бібла", у в а д з і н о ч н ы х прыпадках могуць быць водхіны.

НА ФОНД „РОДНАЕ МОВЫ" прыслаў дыр. Станіслаў Любіч-Маеўскі 20 зал і на падпіску ад яго дасталі 6 зал.

Выдае Беларускі Гаспадарскі Зьвяз. / Рэдактар Др. Я. Станкевіч.

ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

